# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1974
Ліпень-
Жнівень-
Верасень
Год XXII
№ 3 (141)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1974 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.

Mr. B. Danilovich, 303 Hovard Str., New Brunswik, New Jersey, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str., Los Angeles, Calif., USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl., New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave., Toronto, Ont. 560, Canada.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12, 8 HY.,
Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12, азначае North , а не нумар.


ON GOD'S HIGHWAY

Year XXII July—August—September № 3 (141)
1974

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE.,
LONDON, N. 12, 8 HY., ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXII | ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ—ВЕРАСЕНЬ | № 3 (141)

а. Т. Падзява

# Добрая навіна

## БОГ КЛІЧА ЧАЛАВЕКА ДА СУПРАЦОЎНІЦТВА

### XI-ая КАТЭХЭЗА

Стварыўшы першую пару людзей, Бог сказаў ім: «Пладзіцеся дый размнажайцеся, каб напоўніць зямлю і падпарадкаваць яе сабе, — каб вы панавалі над марскімі рыбамі, над птушкамі ў паветры ды над усялякім стварэньнем жывым, якое ходзіць па зямлі». (Быццё 1, 28)

*

Бог мог стварыць адразу ўсіх людзей, але стварыў толькі аднаго мужчыну — Адама і адну жанчыну — Еву; а далей падзяліўся зь імі сваей творчай сілай, творачы Сам толькі душу кожнаму дзіцяці, якое зьяўіцца на сьвет залежна ад волі мужчыны дый жанчыны.

Божы загад «размнажайцеся» абыймае ня толькі перадачу жыцьця. Чалавек родзіцца слабы і недалужны: ён патрабуе яшчэ шмат гадоў апекі бацькоў, а таксама і духовага і фізычнага ўзгадаваньня. Так перадача жыцьця дый узгадаваньне чалавека мае месца у сям'і.

Бог ёсьць Валадаром усяго, як «Усегаспадар». Чалавек, створаны на абраз і падабенства Божае, згодна з думкай Божай павінен мець удзел у гэтым панаваньні: «Няхай пануе» (Быцце 1, 26), кажа Бог. Значыць, Сам Бог паддаў зямлю дый усё, што на ёй знаходзіцца, пад панаваньне чалавека. Чалавек можа карыстаць з зямлі і з ейных дараў для заспакаеньня сваіх патрэбаў. «Вось Я даю вам, кажа Бог, усялякае збожжа, што родзіць зерне па ўсей зямлі дый усялякае дрэва, якога плод мае ў сабе насеньне: яны будуць ежай для вас» (Быццьця 1, 29). І Адам пачаў сваё «панаваньне» ад таго, што даў назву кожнай жывёле. Чалавек называе рэчы ня толькі, калі іх пазнае, але яшчэ больш тады, калі іх прысвайвае ды пачынае над імі панаваць. Даючы імя жывёле, чалавек выконваў сваю ўладу.

Улада лучыцца з дзейнасьцяй. Чалавек атрымаў ад Бога зямлю, каб яе эксплёатаваць сваей працай. Праца стала нават абавязкам, калі першыя людзі праз грэх паказалі, што ім мала таго, каб атрымліваць усё гатовае толькі ад Бога. Чалавек захацеў сам, нават супраць Божай волі, знайсьці нешта яшчэ лепшае для сябе. Тады Бог сказаў, што ня будзе ўжо накідываць Адаму сваіх дараў і зямля будзе радзіць яму толькі церні нінашто няпрыгодныя. Калі-ж ён захоча атрымаць зь яе хлеб, дык павінен працаваць да поту.

Так чалавек праз працу кіраваную розумам, пры помачы волі дый фізычнае сілы, працуючы фізычна дый умыслова, пазнае законы прыроды, выкарыстывае іх і гэтак паляпшае зямлю. Прагрэс культуры, цывілізацыі дый тэхнікі ёсьць ня толькі выкананьнем Божага загаду, але й супрацоўніцтвам з Богам у стварэньні сьвету.

*

Кажны чалавек, які з сваей працы утрымлівае сябе дый сваю сям'ю, гэтым самым разьвівае дзела Стварыцеля. А тыя, што пры большай здольнасьці і працавітасьці прычыняюцца да разьвіцьця цывілізацыі дый культуры, яшчэ лепш паказываюць веліч і дабрату Божую. Дык адсюль праца, паляпшаньне сьвету ды бязупынны прагрэс становіцца абавязкам усіх людзей.

Царква ў сваей Літургіі заклікае да супрацоўніцтва чалавека з Богам у перадачы жыцьця дый у дасканаленьні сьвету, напр. у таінствах (сакрамантах).

НАШ АДКАЗ БОГУ: Праз чыстае жыцьцё буду рыхтаваць сябе да жанімства, а праз навуку — да прафэсіі.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ:

МІЛАСЭРНЫ, ВЕЧНЫ БОЖА<br>
Цябе просім, колькі зможам,<br>
Ты зьвярні ласкавы вочы<br>
На твой верны люд рабочы!

Дай нам сілы на змаганьне:
Хай шчасьлівы кожны стане;
Адвярні ад нас прыгоды,
Ухавай ад кожнай шкоды.

Дай нам моцну ў Цябе веру,
У жаданьнях дай знаць меру;
Ураджай дай нам на полі,
Збаў нас, Божа, ад няволі!

Не пакінь-жа нас навекі,
Божа, без тваей апекі;
Выбачай нам нашу слабасьць
І згатуй нябесну радасьць!

НАВУКА ЦАРКВЫ: «Царква вучыла заўсёды і далей вучыць, што прагрэс навукі і тэхнікі ды вынікаючы зь яго дабрабыт трэба бязумоўна аднесьці да вартасных рэчаў і ўважаць іх за паказальнікі разьвіцьця чалавечае прыроды. Аднак адначасна Царква вучыць, што гэтыя рэчы трэба ацэніваць згодна зь іхняй сапраўднай натурай, гэта значыць, што трэба іх уважаць за прылады, патрэбныя чалавеку да асягненьня вышэйшае мэты, мяноўна, каб самому стацца лепшым, як у прыродным, так і ў надпрыродным парадку» (Ян XXIII, «Матэр эт Магістра»).

«Чалавек створаны на абраз Божы атрымаў паручэньне, каб кіраваць сьветам справядліва і ў сьвятасьці, пануючы над зямлёй і над усім, што ў ёй ёсьць; а таксама, каб, прызнаючы Бога Стварыцелям усяго, адносіў да Яго самога сябе ды ўсе рэчы, так каб праз падданьне ўсяго чалавеку, Імя Божае было дзіўным па ўсей зямлі... Хрысьціяне не ўважаюць, што творы чалавечай вынаходлівасьці ды здольнасьці быццам супрацьстаўляюцца Божай магутнасьці, а разумнае стварэньне становіцца канкурэнтам Стварыцеля; але наадварот, хрысьціяне пракананыя, што перамога чалавечага роду ёсьць знакам Божай велічы ды вынікам Ягонага нявысказанага пляну. І чым больш узрастае магутнасьць людзей, тым шырэй расцягіваецца адказнасьць, як адзінак, так і грамадзтваў. Адсюль можна бачыць, што хрысьціянская навука не адрывае чалавека ад будаваньня сьвету і ня ўводзіць людзей у нядбайнасьць да дабра бліжняга; а наадварот, яшчэ мацней вяжа яго абавязкам выконываць гэтыя рэчы». (Пастаральная Канстытуцыя, 34).

ПЫТАНЬНЕ:

21) Да якога супрацоўніцтва кліча Бог чалавека?

АДКАЗ: Бог кліча чалавека да перадачы жыцьця ў сям'і ды да палепшаньня сьвету праз працу.

## БОГ КЛІЧА ЧАЛАВЕКА ДА СУЖЫЦЬЦЯ З САБОЮ

### XII-ая КАТЭХЭЗА

ЧАЛАВЕК, якім ён ёсьць, ня вышаў гэтакім з рук Божых. Бог ад пачатку меў для яго прыгатаваную без параўнаньня лепшую долю. Аднак не хацеў чалавека да яе прымушаць і даў яму поўную магчымасьць адкінуць яе, калі яна яму не спадабаецца. І чалавек паказаў, што лепш будзе сам выбіраць, чым слухаць хоць-бы Самога Бога. Дык і выбраў горшае і пажалеў толькі тады, калі праканаўся, што зрабіў дрэнна. Аб гэтым так кажа Сьвятое Пісьмо:

«А насадзіўшы сад на ўраджайнай раўніне на ўсходзе, ЯГВЭ-БОГ памясьціў там чалавека, каторага зьляпіў. На загад Бога Ягвэ вырасьлі з грунту ўсялякія дрэвы прыемныя на выгляд і родзячыя смачныя фрукты, ды дрэва жыцьця пасярод гэтага саду, а таксама дрэва пазнаньня дабра і зла. З гэтай-жа ўраджайнай раўніны выплывала рака, каб наваднять гэты сад... Дык узяў Ягвэ Бог чалавека ды памясьціў яго ў садзе Эдэн, каб даглядаў і парадкаваў яго. (Быцьця 2, 8-15).

*

Чалавек жыў у блізкай лучнасьці ды ў дружбе з Богам. Тады быў ён шчасьлівы. Кніга Быцьця паказывае шчасьце першага чалавека ў абразох. Адам і Ева жывуць у садзе, які завецца Эдэн, а панашаму рай. Гэта — оазіс, дзе многа вады і багатая расьлінасьць. Ёсьць там дрэвы і фрукты. Ёсьць птушкі дый зьвяры. Разумны чалавек надае ім імёны, каб адрожніць і лепш пазнаваць, якую зь іх можна мець карысьць. Чалавек у раі быў спакойны ды ўнутранна апанаваны, а усе ягоныя пачуцьці ды імкненьні былі падпарадкаваныя розуму. (Быцьцё 2, 25). Ён ня ведаў, што такое боль або сьмерць. Праца яго ня мучыла і ён ня ведаў стомленасьці. (Быцьця 3, 19). Сам Бог наведваў іх.

Гэты ўнутраны мір і шчасьлівае жыцьцё ў раі былі Божым дарам і чалавек цешыўся ім, пакуль жыў у дружбе з Богам, сваім Стварыцелям. Паслушэнства Богу было патрэбна чалавеку да шчасьця. І яно патрэбна яму і цяпер.

Памяць аб «райскім жыцьці» асталася ў людзей на заўсёды. Перад усім яна перахавалася ў патомкаў Абрагама.

*

Цела і душу чалавека мы называем **прыроднымі** дарамі Божымі. Гэтыя дары мае кожны чалавек.

Вольнасьць ад хваробаў, болі і ад сьмерці, а таксама пананаваньне розуму і волі над па-

чуцьцямі ды імкненьнямі, якія мелі людзі ў раі, мы называем **звыш-прыроднымі** дарамі.

Найбольшым дарам, перавысшаючым усе іншыя, была жывая лучнасьць з Богам праз асобны дар, які называецца **надпрыродным жыцьцём**, або **асьвячаючай ласкай**. Гэта ёсьць асобнае жыцьцё, толькі тым яшчэ непадобнае да жыцьця Самога Бога, што і яно яшчэ ёсьць створанае Богам. Але гэтае жыцьцё ўжо дае магчымасьць чалавеку жыць жыцьцём Самога Бога ў гэтым нашым жыцьці праз веру, надзею і любоў, а пасьля сьмерці бачыць Бога такім, якім Ён ёсьць і дзяліць зь Ім Ягонае нястворанае, вечнае шчасьце. Гэты дар рабіў чалавека сьвятым сьвятасьцяй Самога Бога, таму Бог усынавіў першага чалавека і першыя людзі былі Божымі дзецьмі. Сяньня гэты дар можа атрымаць кожны чалавек, калі паверыць Хрысту ды ахрысьціцца. Сьвяты Ян, улюбёны вучань Хрыстовы, напісаў: «А тым, што прынялі Яго, веручым у Імя Яго, даў ім сілу дзяцьмі Божымі стацца, тым, што не ад крыві, не ад пажаданьня цела, не ад жаданьня мужа, але ад Бога нарадзіліся» (Ян 1, 12-13).

НАШ АДКАЗ БОГУ: Буду цаніць дар надпрыроднага жыцьця, які я меў шчасьце атрымаць, калі мяне ахрысьцілі. Буду сьцерагчыся грахоў, каб не памерці душой: а калі-б здарылася са мной такое няшчасьце, пастараюся як найхутчэй адрадзіцца ізноў у таінстве пакуты.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: «Госпадзе, не дай мне ніколі адлучыцца ад Цябе. (З малітвы сьвятара ў лацінскім абрадзе перад сьвятым прычасьцем (камуніяй).

ДЫКТУЕМ ПЫТАНЬНЕ ДА ГЭТАЕ КАТЭХІЗЫ:

22) **Які найбольшы дар атрымалі ад Бога першыя людзі?**

АДКАЗ: **Першыя людзі атрымалі ад Бога дар надпрыроднага жыцьця, які інакш называецца асьвячаючай ласкай.**

---

*А. Калубовіч*

# Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства

## (РУКАПІСНАГА Й ДРУКАВАНАГА)

(Працяг)

Разам із помнікамі гісторыі й мастацтва, із Беларусі вывозіліся **помнікі эпіграфічнага пісьменства.** У 1879 г. із с. Балоткі к. Дзісны ў Маскву, у археалягічны (а пазьней — гістарычны) музэй — камень із напісам XII ст. (г. зв. «Сулиборь хрьстъ»).[213]) У 1914 г. із Полацца ў Багаяўленскі Абрагамаў манастыр у Растоў (а стуль — у Яраслаўскі музэй) — крыж сьв. Параскевы.[214]) У 1915 г. із розных месц — старыя царкоўныя званы із напісамі).[215]) І шмат іншага.

### Нішчэньне помнікаў пісьменства

Поруч вывазаў, ішло нішчэньне, ад якога найбольш пацярпела пісьменства ў **нацыянальнай беларускай мове** — дакументы беларускай гісторыі й кнігі вуніяцкай (дакладней — былой праваслаўнай і вуніяцкай) літаратуры XVII—XVIII ст.ст.

Шмат іх **было спалена ў вагні**[216]. У 1814—36 гг. Нясьвіскім замкам і маёмасьцю Радзівілаў кіравала царская апякунчая камісія. «Czasy tego zarządu były dla archiwum prawdziwa klęska . . . W spustoszonym zamku palono w piecach papierami archiwalnymi, w końcu zaś przewieziono cały archiwum do Wilna . . . I w owym to czasie poniosło archiwum dotkliwe straty; wiele zniszczało, wiele rozeszło się po świecie»[217]. Калі ў 1836 г. архіў быў вернуты ў Нясьвіж, зь яго ўжо пасьпела «вялікая частка найцікавейшых дакумантаў зьнікнуць . . . а рэшта была ў поўным бязладзьдзі», — скардзіўся кн. Вільгэльм Радзівіл горадзенскаму губэрнатару[218].

213) Алексеев. Полоцкая земля, б. 231.

214) Ч. С. Крыж-рэліквіяр сьвятой Параскевы Полацкай — час. «Божым Шляхам», Лёндан, 1973 г., № 3/137, бб. 3—5.

215 Крывіч, 1925 г., № 9/1, б. 111.

216) Із раньніх выпадкаў тут трэба назваць публічнае паленьне кніг Ф. Скарыны ў Маскве ў часе паміж 1525 і 1533 гг. Кнігі тыя, спаленыя на загад в. кн. Маскоўскага Васіля III, вазіў у Маскву на паказ і продаж сам Ф. Скарына (С. Брага. Доктар Скарына ў Маскве, Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1963 г.).

217) Dr. E. Barwiński, б. 4. Цэлыя томы збораў тады трапілі ў бібліятэку графаў Рачынскіх у Пазнань, князёў Чартарыйскіх у Пулавы й Кракаў і ў іншыя бібліятэкі й архівы.

218) Dr. E. Barwiński, там-жа.

У 1832 г., на загад із Пецярбургу, пачалася акцыя адбіраньня старых вуніяцкіх служэбнікаў і іншых кніжок і замены іх на расейскія праваслаўныя кнігі. Із цэркваў і манастыроў цэлае Беларусі ў Полацкую духоўную кансісторыю звозіліся для паленьня выданьні беларускіх вуніяцкіх друкарняў[219]. У дадатках да тых кніг у беларускай мове друкаваліся арыгінальныя навукова-тэалягічныя й мастацкія, галоўна вершаваныя, творы беларускай літаратуры: усе яны, за рэдкімі выключэньнямі, беззваротна загінулі ў вагні, разам із багаслужбовымі кнігамі. Вуніяцкія сьвятары спрабавалі ратаваць іх: ведамы выпадак, калі 2. IV. 1834 г. у Наваградку на рукі яп. Язэпа (Сямашкі) 56 сьвятароў зложылі пратэст, але, на загад цара, усе былі пакараныя за гэта годам манастырскай турмы[220].

Аб тым, як «уніатскія книги ... преднамѣренно уничтожались»[221], яшчэ лепей сьведчаць паленьні іх у Жыровічах. Туды ўжо па ліквідацыі ў 1839 г. вуніяцкае царквы яны звозіліся із павуніяцкіх (вуніяцкіх і былых праваслаўных) царкоўных і манастырскіх бібліятэк і, на загад праваслаўнага мітр. Язэпа (Сямашкі), у 1841—44 гг. спальваліся ў манастырскіх печках[222]. Дзеля таго, што такі спосаб нішчэньня кніг быў марудным, і частка кніг раскрадалася, у 1844 г. мітрапаліт загадаў вынесьці кнігі на манастырскі пляц і спаліць іх на вогнішчы адразу[223]. У 1853—55 і 1857 гг. паленьне іх зноў працягвалася[224]. Колькі тут было спалена — невядома: афіцыйна называецца лічба к. 2.000 кніг[225], аднак сам мітрапаліт зазначае, што спалена іх было болей, чымся афіцыйна паказана[226].

У 1860—70-ых гг. рабіліся новыя чысткі царкоўных і манастырскіх бібліятэк[227]. У гэтым часе канчальна было зьнішчана ўсё тое, што яшчэ ўцалела ад кніжных скарбаў старажытнага Турава. У 1865 г. выпадкам былі выратаваныя ад агню недапаленыя 10 аркушаў Тураўскага эвангельля XI ст., якія былі знойдзеныя ў скрыні з вугалем[228]. Археограф В. Лялін прыводзіць факт, як ігумен аднаго із манастыроў Віцебскай эпархіі два тыдні ацяпляў сваю кельлю «старыми бумагами», пасьля чаго «съ облегченной совѣстью» паведаміў свайму япіскапу, што «во ввѣренномъ (яму) монастырѣ никакихъ древнихъ актовъ нѣтъ»[229].

Каля 1898 г. Смаленскі яп. Пятро (Другаў) сьведама спаліў Царкоўна-археалягічны музэй у Смаленску, у якім былі старадрукі, рукапісы й дакуманты[230].

Іншыя помнікі **былі прададзеныя на макулатуру**. Беларускі філёзаф і гісторык, манах М. Брадовіч, меў у Кобрыне «вялікую бібліятэку й багаты навуковы архіў». Па сьмерці вучонага ў 1879 г. бібліятэку ягоную распрадалі, а «яе рэшткі і ўвесь архіў былі здадзены на макулатуру» — «прададзены на пуды», разам із рукапісамі ягоных неапублікаваных «шматлікіх прац» («Гісторыя Полацкага княства» 1 г. д.)[231]. У 1881—83 гг. урадоўцы Віцебскага губэрнскага кіраўніцтва прадалі із Віцебскіх архіваў у Рыгу к. 3.000 пудоў беларускіх актаў XVI—XVIII ст.ст. па 1 рублю 18 капеяк за пуд, а за вырučаныя грошы былі ўзнагароджаныя чатыры ўрадоўцы гэтага кіраўніцтва[232].

У сяр. XIX ст. былі **выпадкі** нішчэньня ў архівах арыгінальных дакумантаў і **замены іх падробкамі**[233].

Шмат кніжок і дакумантаў **загиулан ад няўважлівага іх перахоўваньня**. Калі із Віцебшчыны й Магілёўшчыны пачалі звозіць у Віцебскі Цэнтральны архіў старадаўныя актавыя кнігі, спасярод іх былі «кнігі (з Полацкіх) да аднэй трэцяй часьці абгарэлыя ... На іншых кнігах відаць, што яны моклі, а ў большасьці — пашкоджаныя ад перахову ў мокрых будынках і ад перавозаў ... Многія без

---

219) АШ, § 212 (Г. Шавельскій. Послѣднее возсоединеніе съ православной церковью уніатовъ Бѣлорусской епархіи, СПБ, 1910 г., б. 198); Власт. Паленьне кніг на Беларусі — Крывіч, 1924 г., № 1, б. 61; N. (М. Мялешка). Нашы старажытнасьці — час. «Вольны сьцяг», Менск, 1921 г., № 6.

220) а. Леў Гарошка. Пад знакам «рускае і польскае веры» — Божым Шляхам, 1954 г., № 63, б. 10.

221) Е. Ф. Карскій. Бѣлорусы, т. 3, вып. 2, б. 145.

222) Іосифъ Сѣмашко, митрополитъ Литовскій. Записки, т. 2, СПБ, 1883 г., б. 528; АШ, §§ 81, 83 і 85.

223) А. И. Миловидовъ. Судьба русской книги въ Сѣверо-Западномъ краѣ ... — Христіанское Чтеніе, 1903 г., т. 216, ч. 1, бб. 496—497; АШ, § 81.

224) І. Сѣмашко, т. 2, б. 617 і т. 3, СПБ, 1883 г., б. 1189; АШ, §§ 88—90 і 92.

225) Г. Кипріановичъ. Жизнь Іосифа Сѣмашко, митрополита Литовскаго и Виленскаго, Вильна, 1897 г., бб. 321—322.

226) І. Сѣмашко, т. 2, б. 617.

227) АШ, §§ 103, 192 і інш.

228) Там-жа, § 193.

229) В. А. Лялинъ. Витебскій Центральный Архивъ — Сборникъ Археологическаго института, СПБ, 1880 г., кн. 3, б. 63.

230) АШ, § 184 (А. В. Жиркевичъ. Еще одинъ археологическій покойникъ — Историческій Вѣстникъ, 1907 г., № 6).

231 Л. Аляксееў. Вяртаючы народу мінулыя стагодзьдзі ..., б. 194.

232) АШ, § 106 (Какъ у насъ охраняютъ историческія документы — Историческій Вѣстникъ, 1885 г., т. XIX, бб. 461—462).

233) А. М. Сазоновъ, прадмова да ИЮМ, т. 1, бб. IV—VIII; Лялинъ. Виленскій Центральный архивъ ..., б. 27; В. К. Голубъ. Пятидесятилѣтіе Виленскаго Центральнаго архива древнихъ актовыхъ книгъ, Вильна, 1902 г., б. 21; АШ, § 173.

пачатку, без канца»...[234] Тое-ж самае — у Смаленску, у 1909—1910 гг.[235]; у Аршанскім Куцейнаўскім манастыры, дзе яшчэ ў 1921 г. у вільгаці гнілі старадрукі Куцейнаўскай друкарні XVII ст.[236]. Мажліва нават з мэтаю зьнішчэньня, кнігі Віленскага гарадзкога суда невядома кім былі выдзертыя з вокладак, перамяшаныя паміж сабою й выкінутыя кучаю ў склеп. Іх было там так шмат, што, калі яны былі выпадкова знойдзеныя, іх зложылі ў 145 клункаў па 600—700 аркушаў у кожны[237].

«Віленскі археограф А. Жыркевіч, які ў свой час аддаў шмат энэргіі на адшукваньне й скуплю гістарычных дакумантаў із прададзеных жыдам урадовых архіваў, адкрыта робіць заяву ў друку аб няўважлівасьці маскоўскіх чыноўнікаў у Беларусі да астаткаў старадаўнасьцяў, якія не знаходзілі нічога лепшага, як толькі нішчэньне гістарычных дакумантаў» (А. Шлюбскі)[238].

Паводля справаздачаў газ. «Савецкая Беларусь»[239], за час 1-ае сусьветнае вайны, бальшавіцкае рэвалюцыі й першых гадоў савецкае ўлады ў Беларусі толькі ў ваднэй Віцебшчыне зьнішчана 68 розных архіваў. Відаць, найбольш адчувальнай стратай тут былі бібліятека й архіў графаў Буцянёвых-Храбтовічаў у м. Бешанковічы, зьнішчаных у 1918 г. бальшавіцкім карным атрадам; у архіве былі яшчэ нікім не дасьледаваныя дакументы 1622—1750 гг. Храбтовічаў, а таксама Лукамскіх, Агінскіх і Цяпінскіх[240].

А вось прыклады нішчэньняў ужо ў нашыя дні. У с. Жукаў Барок к. Стоўпцаў у 1720 г. канцлер Вялікага княства Літоўскага кн. Кароль Станіслаў Радзівіл пабудаваў вуніяцкую царкву. «Яна прастаяла тут усе свае 250 гадоў і толькі нядаўна была зьнесеная... У царкве было шмат кніг, у тым ліку старажытных, а таксама рукапісных... Гэтыя кнігі перавезьлі ў Стоўпцы... У аддзеле культуры Стаўпецкага райвыканкому... сказалі, што кнігі з Жукаборскай царквы... спалілі». Адзін із качагараў гарадзкой лазьні ў Стоўпцах расказваў, што «Кніг гэтых (якія «звалілі... у качагарку») была... цэлая гара («прайсьці ня было як»). Усялякія там былі — і друкаваныя, і так, ад рукі пісаныя. Якім было мо па тысячы год — тоўстыя, шчарнелыя, крыж залачоны пасярэдзіне... І — па кнізе, па кнізе — пачалі падпальваць імі печы. Нас тады чатырох было, качагараў. На зьмену палілі. Больш як на месяц хапіла іх на распал...»[241] «Больш трох стагодзьдзяў стаяла драўляная царква ў в. Насілава Маладзечанскага раёну. Мела яна свае багатыя архівы, бібліятэку, дзе былі ня толькі рэлігійнага зьместу кнігі і дакуманты, але і сьвецкія. Нехта Раскін аддаў указаньне царкву разбурыць, а ўсё астатняе — згрузіць на падводы, вывезьці і зьнішчыць»[242].

Нішчэньні не абмінулі й помнікі эпіграфічнага пісьменства. Для прыкладу назавем камні-«пісанікі» XII ст.: у 1818 г. зь іх **былі ўзарваныя** Барысаў[243] камень к. с. Кавалі ля Дзісны (у ім быў адбіты верх, пашкоджаны крыж і напіс) і Сьвятаполк-камень (зусім зьнішчаны); у 1880 г. узарваны Барысаў камень к. с. Высокі Гарадзец ля Лукамля (на ім пашкоджаны напіс, а канец яго стаў нячытэльны); у 1937 г. ён і Рагвалодаў[244] камень 1171 г. к. с. Дзятлаўка ля был. Друцка былі зусім разьбітыя аманалам і ўжытыя на будаўніцтва шашы Масква—Менск[245]. У 1932 г. бальшавікі разьбілі й таксама ўжылі на будаўніцтва шашы Вула—Бачэйкава Сакораўскі каменны крыж, пастаўлены ў 1569 г. на беразе воз. Пола к. с. Сакорава (блізка Бешанковічаў) на брацкай магіле 200 беларускіх жаўнераў, што загінулі ў бойцы із маскоўскім войскам Івана Грознага[246].

Нішчэньню спадарожнічалі **зьнікненьні**. Часткава мы ўжо закраналі іх у сувязі із доляй гістарычнай калекцыі Эрмітажнага збору й Нясьвіскага архіву ў 1814—36 гг. Дадамо тут іншыя факты.

У 1803 г. із Віцебска ў Пецярбург былі высланыя 9 каралеўскіх прывілеяў г. Віцебску, якія пазьней невядома куды зьніклі[247].

Расейскі гісторык і бібліятэкар Полацкай праваслаўнай духоўнай сэмінарыі К. Гаворскі пры перавозе ў 1856 г. із Полацка ў Віцебск

234) ИЮМ, т. I, б. LIII.

235) АШ, § 201.

236) N. (М. Мялешка), там-жа, б. 37.

237) В. Лялинъ. Виленскій Центральный архивъ, бб. 27—28.

238) АШ, § 201 (А. Жиркевичъ. Свѣжо преданіе, а вѣрится съ трудомъ — Историческій Вѣстникъ, 1902 г., № 9, бб. 709, 770, 772).

239) Гл. № 233 за 1922 г. («Зьнішчэньне беларускіх архіваў на Віцебшчыне») і № 79 за 1923 г. («Становішча архіўных устаноў») — АШ, § 153 і Дадаткі, § 5.

240) АШ, § 131.

241) К. Цвірка. Дарога ў сто год — Полымя, 1971 г., № 6, бб. 163—164.

242) Г. Каханоўскі. З думкай пра будучае — ЛІМ, № 63/2524 за 11. XII. 1970 г., б. 9.

243) Полацкага кн. Барыса Усяславіча († 1128 г.).

244) Бацькі Друцкага кн. Глеба, был. (у 1146—51 гг.) Полацкага кн. Рагвалода Барысавіча.

245) В. Ластоўскі. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі, Коўна, 1926 г., б. 38; Ю. Віцьбіч. Нацыянальныя сьвятыні, Бэрлін, 1944 г., б 14; Л. Алексеев. Полоцкая земля в IX—XIII вв., б. 231, зноска.

246 Ю. Віцьбіч, там-жа, бб. 15—18.

247) АШ, § 204 (А. Сапуновъ. Привилегіи, данныя... г. Витебску — Полоцко—Витебская старина, 1912 г., кнг. 2, б. 327).

бібліятэкі сэмінарыі (был. бібліятэкі Полацкай вуніяцкай сэмінарыі ў XVII—XVIII ст.ст.) частку кніг як «непатрэбных і перашкаджаўшых справаздачнасьці» пакінуў у Полацку, дзе яны пасьля таго ўсе зьніклі; а із перавезеных ім у Віцебск зьніклі яшчэ 183 назвы й усе рукапісы[248], а таксама гістарычныя дакуманты XVI—XVII ст.ст., якія ён у 1858 г. публікаваў у рэдагаванай ім неафіцыйнай частцы «Витебских губернских вѣдомостей» (у №№ 3—8, 12—14, 22—28, 35 і 38)[249].

Рукапіс Беларускага летапісу 1570-ых гг. (адзіны дайшоўшы да нас ягоны сьпісак — Быхаўца), перададзены ў 1834 г. уласьнікам рукапісу, абшарнікам двара Магілёўцы Ваўкавыскага пав. А. Быхаўцом, гісторыку Т. Нарбуту ў двор Шаўры Лідзкага пав., у каталёгу бібліятэкі Нарбута, уложаным ім самім у 1851 г., яшчэ значыцца як існуючы[250]; у каталёгу-ж, уложаным па арышце й сьмерці гісторыка, у 1864 г., настаўнікам Віленскай расейскай гімназіі М. Сокалавым, яго ўжо няма, і рукапіс летапісу зьнік[251].

У 1870-ых гг. Віцебскі праваслаўны япіскап патрабаваў ад усіх манастыроў і цэркваў эпархіі перасланьня ў Віцебск помнікаў старога пісьменства[252]. У 1880 г. В. Лялін[253] паведамляў із Віцебска, што там, у Маркавым манастыры была паўтарасажнёвая скрыня із якімісь старадаўнымі рукапісамі, але ў тым-жа годзе кудысь зьнікла. Із гэтымі фактамі Л. Аляксееў[254] зьвязвае «бясьсьледнае зьнікненьне» прыгадванага намі Архіву старажытных актаў Полацкага княства ў Бельчыцкім манастыры пад Полацкам і «праўдападобна, архіваў іншых манастыроў старажытнае Полаччыны». Мажліва нават, што ўсе яны трапілі ў лік архіваў, прададзеных у 1881—83 гг. у Рыгу.

У Нясьвіскім архіве Радзівілаў Я. Палькоўскі[255] ў 1881 г. знайшоў інвэнтар друкаў Слуцкай друкарні кн. Людвікі Радзівіл, дачкі патрона пратэстантаў у Беларусі кн. Багуслава. Інвэнтар гэты, уложаны ў 1687 г. «rejestruje (za час ад 1670 г.) 23 pozycje, z których większości nie tylko dziś nie znamy, ale nie możemy zidentyfikować. Z zachowanych i zarejestrowanych przez bibliografię druków możemy jedynie wskazać ok. 11 tytułów»,[256] хоць друкарня ў Слуцку была дзейнай яшчэ й пасьля 1687 г. А. Мальдзіс, які ў 1970 г. знайшоў той-жа інвэнтар (ці іншы ягоны экзэмпляр) у Львове, пытаецца: «Што хаваецца . . . за . . . запісамі» гэтага інвэнтара: «Тэорый рускіх» — экз. 80, «Дзёньнікаў» — 2020, «Школак» — 3091, «Працэсаў» — 1006, «Гаспадароў» — 1.000, «Формулак» — 414, «Табліц гарызантальных» — 100, «Аб злучэньні рэк» — 640, «Хрысьціянскіх заўваг» — 250, «Лемантароў» — 3389?. На якой мове ўсё гэта друкавалася? І ці ня тояцца тут невядомыя сёньня творы старой беларускай літаратуры?»[257]

Перад 1893 г. у Менску зьніклі ўсе гістарычныя дакуманты з архіву Менскай і Тураўскай эпархіі[258].

Увогуле, паводля сьведчаньняў з 2-ое паловы XIX ст., беларускія кнігі, рукапісы й дакуманты «ў розныя часы забіраліся рознымі асобамі, які не пакідалі ніякіх сьлядоў прыналежнасьці іх»[259] тэй бібліятэцы ці архіву, скуль яны ўзятыя, і «якія дакуманты й кнігі большай часьцю зьнікалі»[260]. І гэта із такіх старых бібліятэк і архіваў, дзе былі рэзыдэнцыі мітрапалітаў і япіскапаў, як Жыровіцкага[261], Супрасьльскага[262], Пінскага Ляшчынскага[263] манастыроў, і іншых збораў[264].

Невядома дагэтуль, калі й пры якіх акалічнасьцях зьніклі шматлікія названыя й неназваныя намі цэлыя старыя беларускія бібліятэкі й архівы, як і пазьнейшыя зборы зь іх, а ў тым — Полацкага Сафійскага сабору, Жыровіцкага базылянскага манастыра, Слуцкага Траецкага манастыра й г. д. Калі ў вайну 1654—67 гг. маскоўскае войска часова заняла Полацак (17. VII. 1654 г.), акупацыйныя ўлады адразу-ж пачалі інвэнтарызацыю маёмасьці. У вадным із іхных інвэнтароў («Сметная книга» Полацка за 1654 г.) пры апісаньні Сафійскага сабору зазначана, што ў ім ёсьць «пять сундуковъ съ русскими[265] и съ литовскими[266]

248) АШ, § 91.

249) БелСЭ, т. 3, 1971 г., б. 282.

250) Каталёг гэты Улашчык знайшоў у рукапісным аддзеле Бібліятэкі АН СССР у Ленінградзе — ф. 18, спр. 185.

251) М. Улашчык. Хроніка Быхаўца — ЛІМ, № 20/1969 за 9. III. 1965 г.; яго-ж: Предисловие да Хроника Быховца, Москва, 1966, бб. 6—10.

252) АШ, § 103.

253) В. Лялинъ. Витебскій Центральный архивъ, б. 62.

254) Л. Алексеев. Полоцкая земля в IX—XIII вв., б. 229.

255) J. Polkowski. Notatka o drukach Słuckich — Przegląd bibliograficzno-archeologiczny, т. I, 1881, бб. 86—88.

256) Drukarze, б. 232.

257) А. Мальдзіс. Сьляды продкаў — ЛІМ, № 56/2517, б. 12.

258) АШ, § 187.

259) Там-жа, § 180.

260) Там-жа, § 87.

261) Там-жа, § 180.

262) Там-жа, § 87.

263) Там-жа, § 199.

264) Там-жа, §§ 97, 166, 182, 183, 194 і 195.

265) Відаць, царкоўнаславянскімі, паводля тэрміналёгіі маскоўскага пісара.

266) Відаць, беларускімі. «Літоўскімі» кнігамі ў Маскве звалі беларускія.

и съ латынскими съ разными книгами»[267]. Мы ня ведаем, ці тут былі ўсе кнігі Сафійскай бібліятэкі, як і ня ведаем усёй гісторыі гэтых «сундуковъ»: ці іх не пасьпелі эвакуяваць із Полацка перад прыходам войскаў ворага, ці гэта ўжо трафэі, падрыхтаваныя на вываз у Маскву. Зноў-жа «із Львоўскіх дакумантаў (пра Жыровіцкі манастыр — АК) ... відаць, што яшчэ ў 1886 г. 4867 друкаваных і рукапісных кніг з базылянскай бібліятэкі знаходзілася ў Жыровічах у вялізных шафах, зацягнутых дротам і забітых дошкамі»[268]. У 1895 г. некаторыя кнігі зь яе трапілі ў Віленскую Публічную бібліятэку, але лёс цэлай бібліятэкі (г. зн. кніг, што тады-ж часова былі перавезеныя ў муры Віленскага Траецкага манастыра, і тых, што засталіся ў Жыровічах[269]) — невядомы.

Зьніклі канфіскаваныя ў 1930-ых гг. пры арыштах іхных уласьнікаў у БССР прыватныя зборы рукапісаў і старадрукаў беларускіх навукоўцаў В. Ластоўскага, А. Шлюбскага й М. Пятуховіча ў Менску, а таксама ў часе 2-ой сусьветнай вайны — збор гісторыка беларускае літаратуры Р. Зямкевіча ў Варшаве[270].

Факты паказваюць, што зьнікалі, як і нішчыліся, кнігі й рукапісы галоўна ў **нацыянальнай беларускай мове** й ня толькі пісьменьнікаў-пратэстантаў ці вуніятаў, але й праваслаўных. В. Сопікаў у пач. XIX ст. апісаў[271] першую кніжку, выдадзеную пабеларуску ў Нясьвіскай кальвінскай друкарні 20. X. 1561 г.[272] — С. Будны «О оправданіи грѣшного человѣка предъ Богомъ». І. Каратаеў ужо ня мог яе знайсьці й інфармуе аб ёй[273] паводля Сопікава, які із бібліёграфаў адзін «имѣлъ въ рукахъ эту книгу»[274]. Першую друкаваную пабеларуску кніжку ў Магілёве — праваслаўнае вучыцельнае эвангельле 1619 г. — бачыў таксама толькі Сопікаў[275]. Каратаеў[276] і іншыя інфармуюць аб ёй паводля яго. Вуніяцкі катэхізм — «Наука, яко вѣрити маеть каждый» — уложаны й выдадзены ў 1628 г. манахамі Віленскага Траецкага манастыра, апісаў у 1-ай пал. XIX ст. І. Сахараў[277]. Апісаны ім экзэмпляр тады належыў «библіотекѣ Московскаго типографскаго двора». Ні Каратаеў, ні іншыя бібліёграфы яго ўжо не знайшлі[278]. Праваслаўны «Трэбникъ», выдадзены ў 1618 г. «В Вилно, в Друкарни Братьской. Працею и старанемъ иноковъ» із асобным катэхізмовым разьдзелам «Наука о седми тайнахъ церковныхъ» (арк. арк. 1—178 першае пагінацыі), напісаным для «презвитеровъ», у 2-ой пал. XIX ст. Каратаеў пры апісаньні[279] трымаў у сваіх руках. Цяпер гэтага выданьня няма: захавалася іншае з таго самага году — толькі царкоўнаславянскі тэкст трэбніка, але без катэхізму пабеларуску[280]. Перад 2-ой сусьветнай вайной у вуніяцкім мітрапалічым архіве пры катэдры сьв. Юрага ў Львове захоўваўся «Кодэкс з далучэньнем справаздач аб манастырскім і школьным жыцьці базылянаў у Жыровічах на Слонімшчыне» (шыфр: Д-9), куды было ўпісана шмат арацыяў студэнтаў Жыровіцкай вуніяцкай калегіі з 1751—52 і 1761 гг.[281] Па вайне архіў гэты забраны ў Цэнтральны Дзяржаўны гістарычны архіў УССР у Львове (ф. № 201), але «Кодэксу» із арацыямі тут ужо няма[288]. І. г. д.

Із помнікаў эпіграфічнага пісьменства найбольшая страта — крыж сьв. Афрасіньні Полацкай, зроблены на яе заказ у 1161 г. полацкім ювэлірам Лазарам Богшам. Пры нявыясьненых акалічнасьцях «крыж зьнік[283] із спэцперахаваньня Магілёўскага гістарычнага му-

267) А. П. Сапуновъ. Витебская старина, т. 4, Витебскъ, 1885 г., б. 292.

268) Мальдзіс, там-жа.

269) Цыбуля, там-жа, 51.

270) Тут былі старадрукі, пачынаючы ад Ф. Скарыны, і рукапісы XVIII-пач. XX ст.ст. (Генадзь Кісялёў. Загадка беларускай «Энеіды», Мінск, 1971 г., бб. 37—38).

271) Опытъ россійской библіографіи... Собранный изъ достовѣрныхъ источниковъ Васильемъ Сопиковымъ, ч. 1, СПБ, 1904 г. (выданьне 2) бб. LI і 168 (№ 793).

272) Паводля сучаснага студзеньскага календара (на кнізе стаяла дата тагачаснага верасьнёвага календара — 11. X. 1562 г.).

273 Описаніе славяно-русскихъ книгъ, напечатанныхъ кирилловскими буквами, т. I, съ 1491 по 1652 г. Составилъ И. Каратаевъ, СПБ, 1883 г., № 59.

274) Там-жа, б. 140.

275) № 322.

276) № 250.

277) И. П. Сахаровъ. Обозреніе славяно-русской библіографіи, т. I, кнг. 1, СПБ, 1849 г., № 252.

278) Каратаевъ, № 328.

279) Там-жа, № 242.

280) Зернова, там-жа, б. 218.

281) Мальдзіс, там-жа, № 55/2516, б. 12.

282) Там-жа, бб. 12—13.

283) Не зважаючы на пісьмовае закляцьце на крыжы, забараняючае забіраць яго із Полацка, ужо ў вайну 1514 г., калі «благочестивый государь князь великий Василей Ивановичь» захапіў Смаленск, «тот честный крестъ во царствующий градъ в Москву привезенъ» із Смаленска, куды к таму часу ён трапіў незвядома зь якіх прычынаў. У маскоўскай казьне крыж праляжаў да 1563 г. У гэтым годзе Іван Грозны, ідучы вайною на Вялікае княства Літоўскае «и имея надежу... на крестъную силу», каб «победити врага своя», «взя с собою» яго ў Полацак (як сьведчыць пра ўсё гэта Ніканаўскі летапіс пад 1563 г .— Полное собрание русских летописей, т. 13, Москва, 1965 г., б. 347), дзе крыж і быў да 1928 г.

зэю пры заняцьці горада немцамі ў 1941 г.»[284] У 1944 г., хутка па заняцьці Віцебска савецкім войскам, прафэсару мастацтвазнаўства М. Кацару «у Пакроўскай царкве... пашчасьціла ўбачыць (драўляную — АК) скульптуру Апанаса Філіповіча з датаю 1763 г. із надпісам... Нажаль, скульптуры гэтае тады не ўдалося з сабою забраць. Праз колькі месяцаў яна зьнікла, хутчэй за ўсё, была спалена»[285].

Некаторыя із зьнікшых помнікаў пісьменства могуць быць яшчэ адшуканыя, але большыня іх, трэба думаць, была зьнішчаная ў часе сыстэматычных чыстак бібліятэк, архіваў і музэяў. Бібліёграф А. Шлюбскі, на якога мы тут так часта спасылаемся, з гэтае прычыны пісаў: «Усім, хто працаваў над дасьледаваньнем гісторыі беларускага народу і беларускага краю, прыходзілася і прыходзіцца сустракацца з... нястачай кніжных скарбаў і рукапісаў... якімі ад самых даўных часоў была багата Беларусь... Дасьледчыкі... сочачы па бібліятэках і архівах вялікіх гарадоў Маскоўшчыны ці за рубяжом, з вялікімі мукамі знаходзяць патрэбныя ім матар'ялы, а найчасьцей зусім не ўдаецца знайсьці патрэбнага, бо шмат зьнішчана. Гэта сьведчыцца... усімі вучонымі, якія ў сваіх працах дакраналіся Беларусі»[286].

284) Л. Алексеев. Полоцкая земля в IX—XIII вв., б. 127, зноска.

285) М. С. Кацер. Народно-прикладное искусство Белоруссии (от первобытного общества до 1917 г.), Минск, 1972, б. 92.

286) АШ, § 1.

---

**а. Ф. Журня**

# Прычасьце пад двумя відамі

Першыя хрысьціяне верна выконвалі волю Ісуса Хрыста: «Прыміце і спажывайце з гэтага ўсе, бо гэта ёсьць цела маё, якое будзе за вас выданае... Прыміце і пійце зь яго ўсе, бо гэта ёсьць келіх маей крыві...» Апостольскія Дзеі таксама расказваюць пра гэта: «Штодня так- жа аднадушна трываючы ў сьвятыні ды ламаючы хлеб, спажывалі ежу з радасьцяй і прастатой сэрца, хвалячы Бога і маючы ласку ўсяго народу» (Апост. Дзеі, 2, 46).

«Ламаючы хлеб» — тут азначае тое самае, што прымаючы сьвятое Прычасьце (Камунію). Прымалі яго тады так, як было на Апошняй Вячэры: пад двума відамі хлеба і віна. Хрысьціяне так паступалі, каб споўніць волю Хрыста аб спажываньні сьвятой Эўхарыстыі. Гэта аднак не азначала, што толькі пад двума відамі Прычасьце ёсьць важным і карысным для збаўленьня, бо здаўна існавала практыка сьв. Прычасьця і пад адным відам.

### Прычасьце пад відам толькі хлеба

Ужо ў пачатках хрысьціянства былі выняткі з агульнага правіла, г. зн., што не заўсёды Прычасьце давалася пад двума відамі. Напрыклад: адсутным на сьв. Літургіі, вязьням і тым што йшлі на мукі і на сьмерць, а таксама пустэльнікам заносілі сьв. Прычасьце толькі пад відам хлеба. Рабілася гэта дзеля пашаны Хрыстовай Крыві, каб уніікнуць яе разліцьця пераносячы. Пад адным відам прыносілі сьв. Прычасьце таксама тым, якія хаваліся ал прасьледу.

Звычай хатняга Прычасьця ператрываў доўга як на Захадзе так і на Ўсходзе і спатыкаем яго нават тады, калі прасьлед хрысьціянскай рэлігіі скончыўся. Аб Прычасьці пад адным відам успамінаюць у сваіх творах Айцы Царквы: сьв. Васіль, сьв. Геранім; а перад імі аб гэтым пісалі Тэртульян († 220) і сьв. Цыпрыян († 258).

Існаваў і такі звычай, асабліва ў часе прасьледу, а які ператрываў бліз 300 гадоў: сьв. Прычасьце пад відам хлеба ўпускалася ў віно і дадавалася да яго пару кропляў Хрыстовай Крыві. Рабілася гэта ня толькі для хворых, каб аблягчыць ім сьв. Прычасьце, але таксама і дзеля таго, каб выразьней падкрэсьліць адзінства паміж хрысьціянаў. Сьв. Ян Хрызастом гаворачы аб гэтым пісаў: «Мы ня толькі п'ём адзін той самы напітак, але і з таго самага келіха».

Дарэчы варта тут успомніць іншы старадаўны царкоўны звычай прыманьня сьв. Прычасьця пад адным толькі відам у некаторыя дні Вялікага Посту ў час Літургіі перш-асьвячаных Дараў. Звычай гэты астаўся да сяньня ў Заходняй (Лацінскай) Царкве ў вялікую пятніцу, а ва Ўсходняй у серады і пятніцы Вялікага Посту.

Ня гледзячы аднак на гэтыя выняткі, абумоўленьня патрэбамі жыцьця і Літургіі, правілам агульна прынятым так на Захадзе як і на Ўсходзе было сьв. Прычасьце пад двума відамі. Гэткая практыка ў заходняй Царкве пратрывала да XII стогодзьдзя, а ў ва ўсходняй існуе да сяньня.

### Спасабы Прычасьця пад двума відамі

Першыя хрысьціяне прычашчаліся падобна, як аб гэтым знаходзім у сьв. Евангеллі і як яно адбывалася на Апошняй Вячэры. Перш яны спажывалі сьв. Цела Госпада Ісуса Хрыста пад відам хлеба, а пасьля пілі із супольнай чашы сьв. Кроў. Сьвятое Цела біскуп або сьвятар удзяляў прычасьнікам, кладучы ў іхнія вусны або даючы ім у рукі. Гэты спосаб Прычасьця быў найбольш распаўсюджаны. Пасьля зьявіўся ў Рыме звычай піць сьв. Кроў з келіха пры помачы мэталёвай трубкі, а гэта таму, каб не перадаваць келіха з рук у рукі, а гэтым самым, каб больш забясьпечыцца ад выпадку раьліцьця сьв. Крыві. У IX-ым ст. гэты звычай перайшоў з Рыму ў паўдзённую Францыю, але даўжэй ён нідзе не ўтрымаўся.

Ад VII стагодзьдзя зьяўляецца звычай адначасовага Прычасьця пад двума відамі і гэта рабілася трыма спосабамі. 1) Сьвятар ламаў асьвячаны (кансэкраваны) Дар пад відам хлеба, мачаў яго ў сьвятой Крыві ў келіху і даваў вернікам у вусны. Гэтага звычаю трымаюцца й сяньня праваслаўныя і каталікі грэцкага абраду. 2) Часткі асьвячаных Дараў пад відам хлеба ўпушчаліся ў келіх са сьвятой Крывёй і пасьля прычашчаў імі сьвятар або біскуп вернікаў пры помачы лыжачкі. Гэты спосаб Прычасьця існуе да сяньня у праваслаўных і каталікоў славянскага абраду. 3) Трэці спосаб адносіцца да Прычасьця хворых. Паводле яго далучалася некалькі кропляў сьвятой Крыві да сьвятога Цела і тады давался да спажываньня. У Заходняй Эўропе гэты спосаб быў менш ведамы, а калі дзе і зьявіўся, дык ня доўга існаваў, як напрыклад у Гішпаніі.

### Сьвятое Прычасьце пад адным відам

У XII-ым стагодзьдзі ў Царкве лацінскага абраду уваходзіць паўсюдны звычай Прычасьця для вернікаў толькі пад відам хлеба. Прычынай гэтага быў больш ажыўлены культ Эўхарыстыі, якую ўрачыста ў манстранціях выстаўлялася на аўтары, з малітвамі і песьнямі несьлі ў працэсіях. Усё гэта было больш бяспечна і практычней рабіць толькі пад відам хлеба. Таксама прычашчаць вернікаў і перахоўваць сьвятыя Дары выгадней было пад адным відам.

У XV-ым стагодзьдзі ў некаторых краях, асабліва ў Чэхіі, супроць такога звычаю паўстала апазыцыя. Дайшло нават да гэрэтыцкіх абагульненьняў г. зв. утраквістамі, якія навучалі, што да збаўленьня ёсьць неабходным Прычасьце пад двума відамі і што пад адным відам ёсьць яно несапраўдным. Разнабой у рэлігійных паняцьцях давёў да хатняй вайны. Быў тады такі дух часу, што людзі змагаліся не супроць рэлігіі, але ў абароне праўдзівых або фальшывых прынцыпаў. У 1415 г. Сабор у Канстанцыі асудзіў навуку утраквістаў і паясьніў, што сьв. Прычасьце ёсьць аднолькава карысным і сапраўдным пад адным ці двума відамі. Гуса, правадыра утраквістаў, па загаду дзяржаўнай улады спалілі.

Трыдэнцкі Сабор яшчэ абшырней паясьніў навуку аб сьвятым Прычасьці (1557 г.). Між іншым ён заявіў, што няма такога загаду ад Госпада, каб прычашчацца вылучна пад двума відамі і што Прычасьце пад адным відам аднолькава ёсьць правільным і для душы карысным. Пасьля гэтага Сабору Прычасьце толькі пад відам хлеба поўнасьцю сталася звычаям на Захадзе і трывае да сяньня.

### Зварот да практыкі Прычасьця пад двума відамі

У нашым часе ізноў пачуліся галасы, каб у Царкве лацінскага абраду вярнуць звычай Прычасьця пад двума відамі, прынамсі пры некаторых нагодах. Таму II-гі Ватыканскі Сабор заняўся гэтай справай і ў канстытуцыі аб сьв. Літургіі дазволіў на такую практыку ў большым нават засягу, чымсьці некаторія дамагаліся і даручыў Апостальскаму Пасаду дакладней заняцца умовамі і спосабамі, як увесьці саборныя пастановы, хоць і затрымаў яшчэ Сабор як абавязваючы звычай Прычасьця пад адным відам.

Хутка пасьля Сабору (быў зачынены ў 1965 г.) Апостальскі Пасад выдаў дырэктывы і інструкцыі, якія дакладней паясьняюць хто, пры якіх нагодах і якім спосабам можа прычашчацца пад двума відамі.

1) Сьвятары у час свайго рукапалажэньня.

2) Законьнікі і законьніцы, якія ў час Літургіі прыносяць свае шлюбы.

3) Бацькі і сваякі сьвятара, які адпраўляе першую сьв. Літургію (Імшу), называную прыміцыяй.

4) Дарослыя асобы, якія прымаюць тайны (сакраманты) хросту, канфірмацыі, або робяць вызнаньне веры; а таксама іхнія сваякі, хросныя бацькі і катэхэты.

5) Наваўступаючыя ў сужэнства, калі яно адбываецца ў часе сьв. Літургіі (Імшы).

6) Вернікі, якія прымаюць місіянерскі абавязак у часе сьвятой Літургіі (Імшы).

7) Хворы і прысутныя на Літургіі ў ягоным доме.

8) Удзельнікі рэкалекцыяў або іншых духоўных заняткаў, у часе якіх асабліва для іх служыцца сьвятая Літургія.

9) Сьвецкія, якія прыслугоўваюць да сь. Літургіі і клерыкі (кандыдаты ў сьвятары) на ёй прысутныя.

10) Сьвятары, прысутныя на сьв. Літургіі, якая адпраўляецца дзеля важнай для іх нагоды, а ў якой яны дзеля хваробы або з іншай прычыны ня могуць саслужыць.

**Спосабы Прычасьця пад двума відамі**

Яны ёсьць у сутным тыя самыя, якія ўжываліся даўней, толькі царкоўныя прыпісы іх больш удакладнілі да новых умоваў жыцьця.

Найбольш прынятым спосабам ёсьць спажываць асобна сьв. Цела і сьв. Кроў. Сьвятое Цела ўкладае сьвятар у вусны прычасьніка або кладзе яму на руку і гэты сам зь яе спажывае. Сьвятую Кроў п'юць з супольнага келіха, які трымае сьвятар у сваіх руках або даручае кожнаму з прычасьнікаў.

Існуе таксама іншы спосаб: сьвятар мачае сьв. Хлеб у сьв. Крыві ў келіху і падае яго ў вусны прычасьніка. Гэтак ва ўсходнім абрадзе, як было сказана вышэй, прычашчаюць грэкі.

Ёсьць дазволеным прычашчацца сьвятою Кроўю таксама ўжываючы адпаведна зробленай трубкі, якую пасьля ўжытку прамываецца ў вадзе. Сьвятое Цела прымаецца тады так, як было выясьнена вышэй у першым выпадку. Гэты спосаб прыняцьця сьв. Крыві ня вельмі пашыраны.

Апостальскі Пасад упаўнаважыў Краёвыя Біскупскія Канфэрэнцыі ўжываць новыя спосабы і пры іншых нагодах Прычасьце пад двума відамі ў залежнасьці ад мясцовых патрэбаў.

Агульны вывад з усяго, аб чым было сказана вышэй, ёсьць такі: да сяньняшняй пары у Заходняй Царкве прычасьце раздзяляецца ў асноўным пад адным відам Хлеба. Ці гэты звычай уступіць месца іншаму, які ўжо ў многіх выпадках дазволены і практыкуецца — пакажа будучыня.

---

## *З царкоўнага жыцьця*

### ПАПСКАЕ ПОСЛАНЬНЕ АБ СЬВЯТЫМ ГОДЗЕ

23-го мая г. г. Павал VI-ты выдаў Пасланьне, якім абʼявіў Сьвяты Год для Рыму і для цэлага сьвету. Пачнецца ён на Каляды і будзе трываць да канца 1975-га году. Гэты Юбілей сьвяткуецца, як ведама, у двух этапах: І-шы этап праходзіць у гэтым 1974 г. Ён датычыць кажнай асобнай дыяцэзіі па ўсім сьвеце; а ІІ-гі этап датычыць самога РЫМУ ў лучнасьці з цэлай Царквою. Лучнасьць адзначаецца паломніцтвам прадстаўнікоў ад паасобных дыяцэзіяў да Гробу Апостала Пятра, першага Наступніка Ісуса Хрыста, а таксама наведаньнем Рымскага Папы, як Пятровага Наступніка.

Сьвяты Год, як адзначыў Папа ў сваім Пасланьні, ёсьць важным фактам ня толькі для самых каталікоў і для хрысьціян усіх Цэркваў, але й для ўсяго чалавецтва. Бо Юбілейны Год прыпамінае Адкупленьне людзей ад «сьмерці грэху да вечнага жыцьця» з Богам, дакананае Хрыстом. Год абʼяўляе найвышэйшыя вартасьці, прынесеныя Богам на зямлю, якіх патрабуе кажны чалавек для свайго дачаснага і вечнага жыцьця. Такімі вартасьцямі зьяўляюцца: *п р а ў д а* аб самым Богу, аб чалавеку і аб сьвеце — праўда, якая дае непамыльны адказ на адвечныя пытаньні чалавечага сэрца. Таксама: лучыцца *с п р а в я д л і в а с ь ц ь ,  л ю б о ў ,  в о л ь н а с ь ц ь ,  б р а т э р с т в а* і сапраўдны *м і р* - супакой. — Іх патрабуе і цяперашні мадэрны сьвет, які так церпіць зь нястачы супакою.

### МЭТА СВЯТОГА ГОДУ

Асаблівай ягонай мэтай ёсьць: **духовая** ***а б н о в а*** хрысьціянскага жыцьця і паяднаньне людзей, — адраджэньне духа ў ва ўсіх праявах і ачышчэньне ад усялякіх заганаў, прычыненае грахамі і злымі нахіламі чалавека. Праз такую абнову хрысьціянскае жыцьцё мусіць стацца падобным да жыцьця Хрыста і першых хрысьціян.

З духовай абновай неразрыўна лучыцца паяднаньне — паводле думкі Папы — з Богам і з людзьмі. Чалавек яднаецца з Богам, але Бог прыймае да сваей ласкі чалавека толькі з той умовай, што ён паяднаецца таксама са сваім бліжнім, які ёсьць дзіцяткам Божым і нашым братам, якога Бог загадаў любіць як самых сябе.

Абнова жыцьця і паяднаньне адбываецца праз *п а к у т у* — у Сакрамантах — споведзі і прычасьці і ў адмене жыцьця. Такім спосабам Сьвяты Год спрычыняецца да згоды між людзьмі і народамі. Адносна экумэнічнай працы ў гэтым часе Папа кажа: «Сьвяты Год стварае нагоду да экспіяцыі і пакуты ў духу ўзнагароды за разрывы, якія існуюць між хрысьціянамі і вядзе да належнага дыялёгу і да канкрэтнай супрацы — аж да поўнага случэньня ЦЭРКВАЎ! Ведама — пры Божай ласцы. — да збаўленьня ўсяго сьвету.

### МОЛАДЗЬ І СЬВЯТЫ ГОД

Царква прысьвячае нямала руплівасьці і заходу, каб дапамагчы моладзі правесьці гэты

Юбілей з найбольшай духовай карысьцьцю. А Цэнтральны Камітэт Сьвятога Году разаслаў спэцыяльнае Пасланьне да ўсіх Біскупаў, у якім падае душпастырскія інструкцыі, каб зазнаёміць моладзь з ідэямі Сьвятога Году і ўвясьці яе ў супрацу.

Дакумант між іншым сьцьвярджае, што цяперашняя моладзь, не зважаючы на ейнае крытычнае настаўленьне, да традыцыйнага жыцьця, ня ёсьць страчаная для рэлігіі. Але яна ёсьць вельмі разнаякая ў сваім настроі. Паміж нязгоднымі між сабою групамі ваюючых атэістаў і сьведамых актыўных каталікоў знайдзецца многа пасярэдніх групаў з разнаякім рэлігійным поглядам, да якіх належаць масы моладзі. Бальшыня іх абмяжоўвае сваю рэлігійную практыку толькі да рэдкіх нагодаў, як: гадавая споведзь і Сьвятое Прычасьце, хаджэньне ў царкву (касьцёл) у некаторыя нядзелі і сьвяткі і інш. І нямала ёсьць таксама маладых людзей, якія становяцца зусім абыякавымі да рэлігіі. Але ні адны, ні другія ня ёсьць праціўнікамі рэлігіі. Проста, яны сталіся такімі, бо не знаюць сапраўднага хрысьціянства! і ня ведаюць, як жыць ягонымі прынцыпамі. А цяперашні матэр'ялізм, якім пранікнута сучасная культура і публічнае жыцьцё, (як і прыватнае), трымае нашую моладзь здалёку. Таксама на рэлігійную пазыцыю ўплывае ўзровень, спосаб эдукацыі і выхаваньне моладзі. Значыць, да ацэнкі моладзі павінен быць розны падыход, адпаведны да кожнае групы. І да цяперашняй моладзі трэба гаварыць мовай простай, канкрэтнай, якой прамаўляе Евангельле.

Сьвяты Год мае нямала ідэяў, якія інтарэсуюць і ангажуюць нашую моладзь. Асабліва ідэя *адновы* хрысьціянскага жыцьця, ягонае аўтэнтычнасьць, зварот да хрыстовага жыцьця. Таксама ідэя *паяднаньня* ўсіх людзей у *праўдзе*, згодзе, супакою і ў любові. Толькі ж гэтыя ідэі трэба прадставіць так, як яны прадстаўленыя ў Евангельлі.

Улажэньне праграмы рэлігійнае дзейнасьці ў Сьвятым Годзе і спосаб выкананьня пастановаў трэба ў вялікай меры пакінуць самой моладзі.

*

МОЛАДЗЬ І ЕВАНГЕЛЬЛЕ: Нядаўна адбылася ў Парыжы спэцыяльная сэсія францускіх Біскупаў, пасьвячаная справе «евангелізацыі» моладзі, у рамках агульнае евангелізацыі ўсяго сьвету, чым мае незадоўга заняцца Сусьветны Сынод Біскупаў у Рыме. Прамаўляючы да прысутных на сэсіі, кардынал МАРТІ, старшыня францускіх Біскупаў, сьцьвердзіў, што цяперашні разьдзел між старшым і малодшым пакаленьням у варунках цяперашняй культуры) вельмі абмежвае выхаваньне моладзі ў рэлігійным духу і евангелізацыю яе. Так што некаторыя сфэры ў сваей недапаможнасьці проста хацелі б абтрэсьці свае рукі ад моладзі і пакінуць яе самой сабе.

Але «на такі пэсымізм і пасыўнасьць мы ніколі ня можам пазволіць!» казаў кардынал. Найперш таму, што ёю займуцца іншыя і зусім адарвуць моладзь ад веры. А па другое, што і рэчаіснасьць ня ёсьць такая дрэнная. Існуюць дзесяткі праяваў, якія паказываюць, што моладзь не адкідае праўды Евангельля: яна спрагненая ў шуканьні праўды. Яе зьнеахвочывае непасьлядоўнасьць і рэлятывізм старшага пакаленьня, які праяўляецца ў ва ўсім іхным жыцьці, нават у маральнасьці і ў веры. І гэта зьяўляецца найглыбейшай прычынай недаверу адных да другіх .. Моладзь, далей кажа кардынал, жадае аўтэнтычнай, жывой веры, якая давала б натхненьне і кіравала б жыцьцём. Яна імкнецца да натхненьня і цаленьня — інтэграцыі сучаснага чалавека, раздвоенага нязгодай між жыцьцём і верай. «Я глыбока ўпэўнены, сазнае ён, што родзіцца новы сьвет, які шукае Бога, які хоча прыняць праўду сьвятога Евангельля. Але пры такой умове, што праўда ня будзе апранута філязофіяй, звычаямі і нормамі мінулага часу».

*

ХРЫСЬЦІЯНСКАЯ РАБОЧАЯ МОЛАДЗЬ: На пачатку ліпня г.г. пад Парыжам адбыўся зьлёт моладзі ў ліку да 40 тысяч — мужской і жаночай. Яна арганізавалася пры ініцыятыве і дапамозе Царквы з мэтай — надаць хрысьціянскі характар рабочаму руху, які пачаў інтэнсыўна разьвівацца. Належыць нямала каталіцкай актыўнай моладзі з цэлай Францыі. Біскупы ганарацца ёю, але яна ўжо ня ёсьць такой, якой была раней. Яны ўжо ўнезалежніліся ад царкоўнай герархіі і стварылі свой напрамак, — прыймаюць нават у свае рады камуністаў! Іхныя заклікі, маніфэсты, прапагаваныя на гэтым зьлёце, прыпамінаюць ярка камуністычныя, як папраўа лёсу работнікаў, хоць і слушныя самі ў сабе, але лішне левыя... А словы «хрысьціянскі», або і «Хрыстос» ледзь чутку пару разоў успомнены

На зьлёце прысутнічалі: кардынал Марті, некалька Біскупаў і сьвятары — душпастыры моладзі. Пасьля кардынал сказаў, што рабочая моладзь «прайшла вялікую эвалюцыю і ўжо ня будзе-*парахвіяльнай.* Ці ўдасца ёй утрымацца пры хрысьціянскай ідэі, будзе многа залежыць ад евангелізацыі і ад таго, на колькі Царква здолее пакіраваць ёю ў гэтым напрамку, не нарушаючы ейнае ініцыятывы.

*

КАРДЫНАЛ ДАНІЭЛЬУ: Памёр нядаўна на ўдар сэрца ў Парыжы, маючы 69 гадоў, — выдатны публіцысты, вучоны, знаўца хрысьціянскай старадаўнасьці. Праз доўгі гады студываў і чытаў лекцыі ў гэтай галіне. Супрацоўнічаў

пры манумэнтальнай гісторыі Царквы першых стагодзьдзяў і сам напісаў вартнасную «Гісторыю Жыдоўскага Хрысьціянства». Студыюючы пачаткі Царквы, апрача кніг са сваей спэцыяльнасьці, напісаў шэрэг працаў і артыкулаў на праблемы сучасныя. Чытаецца ўсё зь вялікай прыемнасьцю дзеля прыгожага стылю і цікавага зьместу.

*

ЗАЎВАГА: Цяпер лік кардыналаў сягае 132. А 109 зь іх не мае яшчэ па 80 гадоў і маюць права выбіраць Папу. На агульны лік кардыналаў прыпадае 58 з Эўропы, 9 з Афрыкі, 18 з Паўн. Амэрыкі, 16 з Паўдн. Амэрыкі, 9 з Азіі, 4 з Аўстраліі і Акіяніі; а рэшта з іншых месцаў. (На беларускага кардынала ўвесь сьвет яшчэ чакае!).

*

ВАРТАСНАЕ АДКРЫЦЬЦЕ: Нядаўна ў мясцовасьці Ізоля пад Рымам у базыліцы знайдзены саркафаг з мошчамі-рэліквіямі сьвятога Гіппаліта мучаніка, які жыў у г. 170—235. На саркафагу зьмешчаны надпіс: «Тут спачывае багаслаўлёны Гіппаліт мучанік». Ён ёсьць ведамы ў гісторыі Царквы як выдатны пісьменнік. Бараніў праўды веры супраць тагачасных гэрэзіяў, выясьняючы сьв. Пісьмо; пісаў багаслоўскія трактаты аб Богу, аб ускрашэньні памёршых і інш.

*

СУСТРЭЧА КАТАЛІКОЎ З БУДДЫСТАМІ: На Цэйлёне сустрэліся з будыйскімі багасловамі і манахамі. Прыбылі Біскупы з Сыяму, Ляосу, Камбоджы і інш. Прысутны быў з Сакратарыяту для нехрысьціян Монс. Россано. Учасьнікі разважалі далейшую супрацу ў абароне чалавечага жыцьця і аб навучаньні ў школах і ў сьвятынях маральных прынцыпаў. Пасьля гутарак усе разам адбылі мэдытацыю ў буддыйскай сьвятыні.

*

ПЛЕБІСЦЫТ У СПРАВЕ РАЗВОДАЎ • ІТАЛІЯ: У маі г.г. адбылося гэтае рэфэрэндум. Раней парлямант правёў пастанову, дазваляючы цывільныя шлюбы і разводы. Найбольш дамагаліся гэтага камуністы і і людзі абыякавыя для рэлігіі. Аднак значная частка каталікоў галасавала супраць такой пастановы і дамагаліся плебісцыту. Народ італьянскі ледзь ня ўвесь — каталіцкі і ў канкардаце была пастанова ня ўводзіць разводаў, бо разводы супраціўляюцца Божаму праву, якое кажа, «Што Бог злучыў, чалавек хай не разлучае!» Аднак на плебісцыце 59% рашыла дапусьціць разводы. Праўда, нямала пракананых каталікоў галасавала на карысьць разводаў — толькі дзеля супакою ў краі, бо добрыя каталікі і так ня будуць з разводаў карыстаць. Значыць, лепш было б не назначаць плебісцыту...

ЛІТВА (Летува): СССР працягвае прасьлед рэлігіі. У школах змушаюць дзяцей выступаць супраць рэлігіі, высьмейваюць рэлігію, дражняць дзяцей і крыўдзяць іх. Ставяць горшыя ацэнкі з усіх прадметаў у атэстатах, каб не дапусьціць моладзь да сьвятыняў і напіхаюць такіх, хто верыць у Бога, хто моліцца і ходзіць на набажэнства. Напрыклад, даюць заданьні пісаць школьныя працы супраць рэлігіі або рысаваць антырэлігійныя карыкатуры. Выпытываюць дзяцей пра бацькоў крытыкуюць старшых за «някультурнасьць» і інш. — твораць дыскрымінацыі і паніжэньні.

*

ЧЭХА-СЛАВАКІЯ: Не зважаючы на і так недастатковы лік сьвятароў, урад камуны часта забараняе — без-дай прычыны — выконваць духоўныя абавязкі — якраз самым найлепшым і ахвярным сьвятаром. Аднаго сьвятара ў Старой-Любоўі звольнілі зь месца дзеля таго, што прымаў міністрантаў і вучыў іх прыслужываць да набажэнства-Літургіі, пасьвячаў дамы падчас калядаваньня, а на казаньнях гаварыў супраць атэізму. Іншага сьвятара ўрад звольніў з парахвіі, бо ён у вольным сваім часе мыў вокны для заробку, бо якобы сьвятары не маюць права трудзіцца для заработку...

*

ПОЛЬШЧА: Нядаўна Ватыкан аб'явіў, што рашыў дагаварыцца з камун. урадам. Гэта, ведама, было б пажадана, каб далося ўнармаваць адносіны Царквы з урадам, аднак і тут урад-камуны зручна інтрыгуе, каб адарваць Камітэт Біскупаў ад добрых адносінаў з Ватыканам.

АФРЫКА — ЗАІР: І тут каталіцкая Царква мае свае клопаты, хоць прычыны іншыя: Урад імкнецца афрыканізаваць каталіцкія сьвяткі. Нядаўна ўрад заявіў Біскупам, што Сьвята Калядаў — Божага Нараджэньня ня будзе публічным сьвятам, бо яно — не «афрыканскае». Дапускаецца затое сьвяткаваньне 24-га сьнежня, як памятка праклямацыі Канстытуцыі...

*

НЯМЕЧЧЫНА. ЛІК СЬВЯТАРОЎ ПРЫБЫВАЕ: У Зах. Германіі ў 1973 г. было на 18% больш кандыдатаў да сьвятарства, чым у прошлы год, значыць, пачаў узрастаць лік духавенства. Цяпер налічаецца 20 тысяч сьвятароў сьвецкіх і 6 тысяч законных, 180 сталых дыяканаў, 4 тыс. законных братоў і 80 тысяч зак. сясьцёр, 2,500 катэхістаў. Лік каталікоў даходзіць да 30 мільёнаў.

*

Др. Г. КІССІНДЖЕР У ПАПЫ: Сакратар Стану, будучы ў Рыме, наведаў таксама і Папу і гутарыў з ім больш гадзіны. Папа выявіў шчырае прызнаньне Кіссінгеру за заслугі на рэч супакою на сьвеце. Была закранутая справа Еру-

салиму. Павал VI выразіў жаданьне, каб гэты горад, як сьвятое месца трох рэлігіяў, што прызнаюць аднаго Бога (хрысьціян, мусульманаў і ізраэлітаў), быў заўсёда для іх даступны. Таму Ерусалім павінен мець праўны статут, гарантаваны ня толькі Ізраілю, але наагул усім рэлігіям і карыстаў з міжнароднае апекі.

*

ЧАСТКОВАЯ СТАТЫСТЫКА З АФРЫКІ: Канфэрэнцыя 5-ці афрыканскіх дзяржаваў — Малезіі, Замбіі, Уганды, Танзаніі і Кеніі выдала статыстыку — паказвае прагрэс царкоўнага жыцьця. Насельніцтва, узятае супольна, налічвае 45 мільёнаў людзей. Лік каталікоў з двух з паловай мільёнаў дайшоў блізка да 10-ці міл. Сьвятароў мясцовых — з 280 да 1159. Законных сясьцёр — з 1269 да 4844 і зак. братоў 405. — Сьвятая Літургія пераложаная на ўсе галоўныя народныя мовы. Праўда, яшчэ ня здолелі перакласьці Сьв. Пісьмо на ўсе дыялекты, якіх тут вельмі шмат: бо, напрыклад, у Малезіі — 8 дыялектаў, у Кеніі — 40, у Угандзе — 34, у Замбіі 18. Аднак, колькі магчыма, пераклады такія пашыраюцца пасьпяхова. Стары Запавет атрымаў менш перакладаў, але Новы становіцца даступны ўсім.

*

ЗЛУЧ. ШТАТЫ АМЭРЫКІ: Сусьветная ФЭДЭРАЦЫЯ МЭДЫКАЎ разаслала да ўсіх дактароў на цэлым сьвеце мэмарыял з просьбай, каб падпісалі дэклярацыю, так назв. «Прысяга Гіпократа» аб ахове жыцьця, прынятую Міжнародным Згуртаваньнем Мэдыкаў 1947 г. Гэтыя падпісы маюць быць прадстаўленныя на Міжнародным Кангрэсе, які адбудзецца ў кастрычніку г.г. у Букарэшце па справе насяленьня зямлі. Зьмест гэтае прысягі ёсьць такі: «З самай існасьці мэдыцыны задача яе ёсьць наступная: — служыць жыцьцю — ня толькі, калі яно слабое, але ад самаго яго пачацьця. Мэдыцына павінна мець абсалютны рэспэкт для чалавечага жыцьця, ня гледзячы на век, хваробу, недалужнасьць і ступень залежнасьці».

*

ТРЫ ЭКУМЭНІЧНЫЯ ЦЭНТРЫ: Папа Павал VI-ы з нагоды Сьвятога Году — для сустрэчы і дыялёгу каталікоў устанавіў ТРЫ ЦЭНТЫ: з пратэстантамі у Асыжу, з праваслаўнымі у Бары і з не-хрысьціянамі ў Ерусаліме (з жыдамі і з магамэтанамі). Арганізацыяй Цэнтраў і іх утрыманьнем у актыўнасьці мае заняцца Папскі Сакратарыят для Адзінства Хрысьціян.

*

ВАТЫКАН: На запрашэньне Апостальскага Пасаду на Сынодзе Біскупаў у Рыме мае быць прысутны прадстаўнік Сусьветнай Рады Цэркваў, яе галоўны Сакратар пастар др. Поттэр. Ён мае выступіць з дакладам на тэму: «Эвангелізацыя мадэрнага сьвету». Сынод адбудзецца ў восені г.г.

*

ВІЗЫТА Ў МАСКВЕ: На жнівень выбрана 19-асабовая дэлегацыя ад важнейшых вера-вызнаньняў у Злуч. Штатах Амэрыкі, каб пагутарыць з праваслаўнаю Царквою. Мэтай візыты ёсьць — бліжэйшае пазнаньне адных з другімі, супраца ў галіне багаслоў'я, экуменізму і харытатыўнай дзэйнасьці.

*

ДА СЯМ'І Ў ВЕНГРЫІ: Мадзярскі ўрад зьмяніў палітыку на карысьць сям'і. Раней давалі ўсялякія палёгкі для сем'яў, каб не дапусьціць дзяцей: аборты і інш. спосабы. У выніку гэтага Венгрыя зышла у разросьце народу да нуля! Бо дзьве трэція часткі дзяцей гінулі ў абортах. На такое ганебнае нішчэньне народу ўдэрылі на алярм мадзярскія жанчыны. Мадзярская Рада Жанчын прычынілася да зьмены ўрадовай палітыкі дэмаграфічнае. Цяпер урад выдаў прадпісы, каб паўстрымаць працэс сьмерці народу. Юлюбы маюць адбывацца ў 30 дзён пасьля зглашэньня кандыдатаў да жаніцьбы, каб неразважна не сьпяшаліся са шлюбам. Урад мае даваць дапамогу з рацыі нараджэньня дзіцяці. Бо дасюль 73% жанчын працуе для заработку. Дык Рада Жанчын дамагаецца большай дапамогі бярэменным і радзячым жанчынам, каб яны маглі ўтрымацца і спаўняць сваю ролю матак у цяперашнім цывілізаваным сьвеце.

*

ПРЫГАТАВАНЬНІ ДА СЬВЯТОГА ГОДУ: Ідуць у базыліцы сьвятога Пятра апошнія прыгатаваньні перад Сьвятым Годам. Літургію для пілігрымаў будзе адпраўляць Папа нядзелямі а гадз. 9,30.

Вялікая ўвага зьвернена на місіі: адбудзецца ў Рыме ДЗЕНЬ МІСІЯЎ — пасьвячаны каталіцкім місіям на цэлым сьвеце: малітвы, студыі, сустрэчы дэлегатаў і спэцыялістаў. У дзень перад Вялікаднем адбудзецца ўрачысты хрост катэхумэнаў-дарослых: Яны прыбудуць выбраныя з розных народаў, прысланыя місіянэрамі. — да базылікі Сьвятога Паўла, Апостала Народаў.

*

СУСЬВЕТНЫ СЫНОД БІСКУПАЎ: Ватыканскае радыё паведаміла, што гэты Сынод пачнецца 20 верасьня. На пачатку — Літургія ў базыліцы Сьвятога Пятра пры ўдзеле Папы. Тэма Сыноду — евангелізацыя сьвету. З розных кантынэнтаў прыбудуць прадстаўнікі — Дэлегаты-Біскупы. Яны выкажуць праблемы, цяжкасьці, патрэбы, вопыты і пытаньні з галіны місіяў у сваіх краёх. Іхныя даклады будуць разважаныя ў дыскусіях на Сынодзе. Сярод дэлегатаў і экспэртаў, зьвязаных з апостольствам Божага Слова; будуць дзьве жанчыны.

НЕБАСЬПЕКА ДЛЯ МОЛАДЗІ: Нядаўна апублікаваны рапарт Канфэрэнцыі БІСКУПАЎ у Польшчы выявіў вялікі неспакой-трывогу. Прычына: школы імкнуцца да выхаваньня дзяцей і моладзі ў духу атэізму і праводзяць сьвецкую маральнасьць сэксуальную, выклікаючы нездаровае хваляваньне і згаршэньне ў грамадзтве. Мэтады адносна такога выхаваньня, падаваныя сродкамі ўрадовай і школьнай публікацыі, ёсьць праціўныя людзкой годнасьці дзяцей і моладзі, нарушаюць хрысьціянскае сумленьне і права бацькоў. Усё гэта праводзіцца са шкодай для грамадзкага дабра і для маральнасці сем'як і адзінак. Бацькі дамагаюцца ад школьных уладаў і ад іншых арганізатараў, каб давалі пісьмовыя дэкларацыі, што іхныя дзеці будуць магчы спаўняць рэлігійныя абавязкі сьвяточнымі днямі — хадзіць у касьцёлы, асабліва нядзелямі на набажэнствы.

Ясна, што ў Польшчы школьная атэістычная акцыя завастрылася пад уплывам і націскам бязбожнае Масквы. Вельмі паніжаючы даведывацца пра гэта, што польскае грамадзтва паддаецца, будучы духова і культурна вышэйшым ад маскоўскага, пад гегемонію чужацкай дыктатуры . . .

## З беларускага жыцьця

### СЬВЯТАРСКІ ЮБІЛЕЙ АЙЦА ЎЛАДЗІМІРА ТАРАСЭВІЧА

26 траўня 1949 г. быў рукапаложаны ў сьвятары а. Уладзімір Тарасэвіч, манах бэнэдыктынскага манастыра ў Лаял ля Чыкага. Радзіўся ён у Беларусі. Маладым хлапчуком выехаў у Злучаныя Штаты Амэрыкі, дзе ў тым часе знаходзіліся ведамыя сьвятары беларусы: яго дзядзька Іван Тарасэвіч і Язэп-Апанас Рэшаць.

Айцец Уладзімір вышэйшыя студыі здабываў у рымскіх унівэрсытэтах: Грэгорыянум і ў Папскім Усходнім Інстытуце. Ён меў добрую нагоду шмат падарожнічаць па Эўропе, Блізкім і Сярэднім Усходзе. Калі а. Іван Тарасэвіч пачаў арганізаваць у Чыкага беларускі рэлігійны цэнтр і парахвію, хутка далучыўся да яго а. Уладзімір і пасьля пераняў кіраўніцтва.

Прыгожая царква і абшырная пры ёй заля сталіся запраўдным цэнтрам рэлігійнага і грамадзкага жыцьця беларусаў у Чыкага. Адведалі іх дастойныя госьці: кардыналы Маерс і Кодзі, таксама беларусы з розных куткоў сьвету. А колькі-ж адбылося там збораў, дакладаў, акадэміяў!

Юбілей 25 гадоў сьвятарства айца Ўладзіміра —гэта нагода шчырай падзякі Богу за ўсе ласкі нятолькі для самога юбілята, для яго сям'і, але і для ўсіх тых, хто зь ім супрацоўнічае.

### АЙЦЕЦ РОБЭРТ ТАМУШАНСКІ — ДОКТАРАМ ФІЛЯЗОФІІ

Пасьля заканчэньня багаслоўскіх студыяў у Нямеччыне (Кэнігштайн) а. Робэрт пераехаў у Лёндан і працаваў у беларускай школе для хлапцоў. Адначасна ён прадоўжваў студыі на лёнданскім унівэрсытэце. 12 ліпня 1974 г. ён абараніў дактарскую працу на тэму: «Нямецкія словы ў беларускай мове». Студыюм айца Тамушанскага датычыць разьвіцьця беларускай гістарычнай лексікі і ўплыву на яе нямецкай мовы. Крыніцамі гэтай рэдкай працы зьяўляюцца помнікі пісьменнасьці XV—XVI стагодзьдзяў. Аўтар дактарскай працы прааналізаваў каля 300 розных слоў нямецкага паходжаньня, зь якіх шмат ужываюцца й сяньня, прыкладам шмалец, шнур, шпілька, варцабы, варта, вата і інш.

Рэдакцыя «Б. Шл.» жадае далейшых посьпехаў а. др. Тамушанскаму як у сьвятарскай так і ў навуковай працы.

### 25-Я ЎГОДКІ СУЖЭНСТВА СПАДАРСТВА МІХАЛЮКОЎ

14 верасьня 1974 г. Янка і Алёна Міхалюкі сьвяткавалі 25-я ўгодкі свайго сужэнства, а іхні найстарэйшы сын Алік 21 год жыцьця.

Гэта сямейная нагода перарасла спадзяваньні юбілятаў. Заля Школы Сьв. Кірыла Тураўскага была перапоўненая гасьцьмі зь Лёндану, з Манчэстэр, з Брадфорд . . . А былі нават і з Беларусі, з Аўстраліі!

Сп. Янка Міхалюк ужо ад некалькі гадоў зьяўляецца Старшынёй ЗБВБ і сябрам Управы Ангельска-Беларускага Таварыства, а спадарыня Міхалюк сяброўкай Управы Лёнданскага Аддзелу ЗБВБ. Абое цешуцца вялікай пашанай і хіба не памылімся, калі назавём гэтага прычыны: саліднасьць Іхняга сямейнага жыцьця (выгадавалі трох сыноў як дубоў), шчыры і дзейны патрыятызм, ветлівая гасьцінная сьць.

«Сватам» у час урачыстасьці быў сп. А. Здановіч. Ён удзяляў голас прамоўцам, якія віншавалі «маладую пару», а якая запраўды трымаецца молада і бадзёра. У цёплых словах віталі спа Міхалюкоў а. прот. Янка Абабурка, сп. Тодар Кажаневіч. а. Я. Гэрмановіч, сп. Я. Сяўковіч, сп-ня В. Рыч, біскуп Ч. Сіповіч.

Багата застаўленыя сталы стравамі і напіткамі, беларускія песьні, вясёлая моладзь і скокі — ўсё гэта стварыла настрой запраўднага беларускага вясельля. За пажаданьні і за падаркі

ўканцы падзякаваў усім сп. Я. Міхалюк. Астаецца толькі яшчэ раз пажадаць, каб пара «маладых» дачакала шмат унукаў, залатога юбілею і каб папрацавала яшчэ нямала тадкоў пры добрым здароўі на славу Бога і Беларусі.

Шмат год жывуць-жывуць хай нам!

## 28-МЫ АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

29 жніўня 1974 г. ў Беларускім Доме ў Лёндане адбыўся чарговы 28-мы Агульны Зьезд ЗБВБ. Было прысутных 30 сяброў-дэлегатаў. Зьезд адчыніў сп. Я. Міхалюк, Старшыня ўступаючай Галоўнай Управы. Малітвай Госпада «Ойча наш» Зьезд распачаў сваю працу. Пасьля праверкі Мандатнай Камісіяй (у складзе: а. Я. Пякаркага, Я. Мазуры і Я. Калбасы) правамоцнасьці мандатаў удзельнікаў Зьезду, быў выбраны яго Прэзыдыюм у асобах: сп. А. Лашук — Старшыня; спадары А. Здановіч і П. Навара — сакратары.

Сп. Я. Міхалюк паінфармаваў аб дзейнасьці ЗБВБ ў мінулым годзе. Унутраная дзейнасьць праводзілася пад наглядам Галоўнай Управы паасобнымі Аддзеламі (Аддзелы ў Лёндане, Брадфард, Манчастер і Бэрмінгам) і рознымі іхнімі сябрамі. Кожны з Аддзелаў зьяўляецца адказным за дамы — уласнасьць ЗБВБ, якія маюць вызначаных адміністратаў. У двох зь іх (Брадфорд і Манчастар) знаходзяцца клюбы. ЗБВБ ёсьць матар'яльна абяспечанай арганізацыяй. Крыніцай даходаў ёсьць апрача сяброўскіх складак надвыжка з адміністрацыі Дамоў, клюбаў і гаражоў.

Ва ўсіх асяродках зарганізаванага беларускага жыцьця ладзіліся нацыянальныя (25-га Сакавіка, угодкі слуцкага паўстаньня) і рэлігійныя сьвяткаваньні. Таксама сябры Галоўнай Управы і прадстаўнікі паасобных Аддзелаў прыймалі удзел у розных міжнародных Зьездах, канфэрэнцыях і маніфэстацыях.

Пры ЗБВБ ёсьць зарганізаваная Харытатыўная Сэкцыя, у якую звычайна пераказваецца надвыжка даходу ЗБВБ. З яе касы часткова пакрываюцца выдаткі выходзячага ўжо ад дзевяці гадоў ангельскага журналу беларусаведы. Дзякуючы ахвярнасьці сяброў ЗБВБ яно надалей астаецца арганізацыяй жывой і карыснай ня толькі для беларускай грамады ў Вяліка-Брытаніі, але асьмельваемся думаць і для берарускага народу ў цэласьці. Аб жывучасьці ЗБВБ сьведчыць між іншым і тое, што на 30 удзельнікаў гэтага Зьезду, было толькі 6 чалавек, якія былі на першым Агульным іьезьдзе, які адбыўся ў Лёндане ў 1947 г. Рэшта — гэта ўжо новыя сябры. Нажаль, замала у нас уцягнута моладзь у грамадзкае жыцьцё!

Пасьля перавыбараў у новую Галоўную Управу увайшлі: сп. Янка Міхалюк — Старшыня, сп. Тодар Кажаневіч і сп. Александар Лашук — Заступнікі Старшыні; Павал Асіповіч — Скарбнік; Алесь Здановіч — Сакратар; спадары Пятрусь Калбаса і Павал Навара — Сябры Управы. У Наглядную Раду і Сяброўскі Суд былі выбраныя: адвакат Г. Пікарда, сп-ня Лёля Міхалюк і сп. Янка Сяўковіч.

Зьезд закончыўся адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну: «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

Наступнага дня ў нядзелю 30 чэрвеня былі адпраўленыя Літургіі: для каталікаў у Марыян Гаўз, для праваслаўных — у англіканскай царкве сьвятога Сіласа.

## ПЕРШАЯ СУСЬВЕТНАЯ СУСТРЭЧА БЕЛАРУСКІХ ВЭТЭРАНАЎ

17—18-га жніўня 1974 г. у Манчэстары, Англія, адбылася Першая Сусьветная Сустрэча Беларускіх Вэтэранаў, што ўшанавала 30-я ўгодкі ўтварэньня Беларускае Краёвае Абароны, памяць загінуўшых за волю Бацькаўшчыны Беларусаў ды на сваей працоўнай сэсіі ў суботу 17-га жніўня абмяркавала мерапыемствы для актывізацыі працы беларускіх вэтэранаў у Вольным Сьвеце. Сустрэчу рыхтавалі два спэцыяльна створаныя камітэты, а кіраваў ёй сп. Х. Кажаневіч. Створаны Камітэт Сувязі Быўшых Беларускіх Вайскоўцаў. Старшынёй выбраны беларускі пісьменьнік К. Акула, сябрам — сакратар «Пагоні» сп. А. Маркевіч. Даручана ім запрасіць да працы сяброў-вэтэранаў з Таронта. Заданьне КСБВ — сувязь, збор матар'ялаў вайсковага беларускага характару, выдаваньне вэтэранскага часопісу.

У нядзелю былі ўрачыстыя службы ў мясцовых беларускіх цэрквах, а ў царкве Жыровіцкае Божае Маці высьвяцілі мэмар'яльную дошку, на якой напісана: «Тым, што працавалі, змагаліся й памерлі, каб жыла Беларусь». У царкоўнай залі адбыўся банкет, а пасьля яго акадэмія. Даклад пра БКА, становішча нашых вэтэранаў на выгнаньні, амаральнасьць маскоўскай акупацыйнай сыстэмы чытаў пісьменьнік К. Акула. Аднагалосна былі прынятыя прапанаваныя рэзалюцыі.

Актыву беларускіх калёніяў у Манчэстары й Брадфардзе належыцца вялікая падзяка за добрую падрыхтоўку Сустрэчы. У Сустрэчы ўдзельнічалі беларускія вэтэраны з Аўстраліі, Канады, Гішпаніі, Францыі і Англіі.

Суродзічаў, зацікаўленых вэтэранаў просім зьвяртацца на наступны адрас:

KSBV, 57 Riverdale Ave., Toronto 6, Ont., Canada

## СЬМЕРЦЬ І ПАХОВІНЫ ОБЭРОНА ГЭРБЭРТА

21 ліпня 1974 г., седзячы ў фатэлі ў сваім маёнтку ў Пікстон Парк, Дальвэртон, няспадзявана заснуў на векі Обэрон Марк Гэнрык Іво Молінэ Г э р б э р т пражыўшы 52 гады.

Бацька Обэрона Обрэй Гэрбэрт, малодшы сын лёрда Карнарвон, быў членам парляманту ў гадох 1911—1923. Здольны палітык памёр у маладым веку, маючы 43 гады жыцьця. Маці Обэрона Марыя — адзіная дачка ірляндзкага лёрда Дэ Вэшці — дачакалася пажылых гадоў і памёрла ў 1970 г.

Обэрон скончыў сярэднюю эдукацыю ў ведамай школе Айцоў Бэнэдыктынцаў у Ампэлфорс, адзін год студыяваў на унівэрсытэце ў Оксфорд. Калі пачалася другая сусьветная вайна, жадаў уступіць у войска. Збракаваны дзеля плоскіх ног брытанскімі ваеннымі ўладамі, уступіў у польскую армію, дзе дайшоў да чыну афіцэра і атрымаў розныя польскія ганаровыя адзнакі. Калі вайна закончылася, Гэрбэрт будучы жыцьёва абяспечаным, прымаў вельмі актыўны удзел у эміграцкім жыцьці розных нацыяў. Яго прозьвішча можна было знайсьці адначасова у такіх арганізацыях: Ангельска-Беларускае Таварыства, Ангельска-Польскае Т., Ангельска-Альбанскае Т., Ангельска-Украінскае. Было-б гэта дзіўна-сьмешным, каб Гэрбэрт будучы «ўсюды», не апраўдваў свайго удзелу ў розных арганізацыях сваей дзейнасьцю. Яго шырокія пагляды, арыстакратычны размах, сувязі з найбольш выдатнымі брытанскімі дзеячамі давалі запраўдную змогу дапамагчы розным арганізацыям.

З беларусамі О. Гэрбэрт быў зьвязаны больш 20 гадоў. Перш быў сябрам Управы Ангельска-Беларускага Таварыства, пасьля яго Старшынёй. Тры дні перад сьмерцю старшынстваваў на паседжаньні Таварыства, на якім між іншым была парушаная справа адсьвяткаваньня 20-ых угодкаў існаваньня. Апошнімі гадамі лічыў сябе парахвіянінам беларускай каталіцкай царквы ў Лёндане.

Трэба тут успомніць некалькі важнейшых мамэнтаў зь беларуска-ангельскага жыцьця, у якіх удзел Гэрбэрта быў неабходным. Да такіх належаць урачыстыя прыняцьці ў найслаўнейшых гатэлях і залях у Лёндане з нагоды сьвяткаваньняў 25-га Сакавіка; прыняцьце ў брытанскім парляманце, дзе прамаўлялі Мікола Абрамчык і Ормсбі Гор (цяпер лёрд Гарлех). Было гэта акурат, калі В. Брытанію адведвалі Хрушчоў і Булганін.

Незабыўнай астаецца ў нашай памяці гасьціннасьць Гэрбэрта для беларусаў, асабліва для школьнікаў сь. Кірылы Тураўскага; яго прамова ў дзень адчыненьня Б. Бібліятэкі і Музэю.

Гэрбэрт быў чалавекам, якога ня можна было не заўважыць, дзе-б ён не зьявіўся. Вялізнага росту, нос нязначна арліны, быстрыя усьміхаючыяся вочы, дыстынгаваныя манеры, якіх ня губляў нават моцна выпіўшы; добра ўладаў некалькімі мовамі, прабаваў прамаўляць і па беларуску; добра паінфармаваны ў міжнароднай і брытанскай палітыцы; меў свае пагляды і меў сьмеласьць адкрыта іх бараніць. Меў шчырае



*Ўручэньне Обэрону Гэрбэрту Пагоні у час сьвяткаваньня 25 Сакавіка 1957 г. На здымцы ён з Пагоняй у руках.*

хрысьціянскае сэрца і шматлікім патрабуючым дапамагаў. Лічыў сябе парахвіянінам беларускай царквы на Фінчлі, куды час-ад-часу прыходзіў на сь. Літургію. Таму было яго воляй, каб беларускі герарх яго пахаваў, што і збылося дня 25 сіпня 1974 г. У гэтым дню біскуп Ч. Сіповіч у саслужэньні з а. А. Нандсонам у парахвіяльнай царкве ў Дальвэртон пры труне памёршага адправілі сь. Літургію; а пасьля на могілках, дзе таксама пахаваная і маці Гэрбэрта, адбыліся паховіны паводля бізантыйска-беларускага абраду. Прысутнічала шмат людзей, сярод якіх прадстаўнікі абодвых палатаў, прадстаўнікі ад розных нацыяў. Ад беларусаў прысутнічалі спадарства Міхалюкі, ад Ангельска-Беларускага Таварыства сябры яго Управы, галоўны сакратар сп. Г. Пікарда. На могілках, калі нясьлі цела, сьпяваў хор англіканскай царквы. Ціхі прыгожы быў дзень. Ліпнёвая зелень прыгатавала быццам знарок свае дываны. Рэха сьвятых гімнаў расходзілася далёка па ўзгорках спадчыны сям'і лёрдаў Гэрбертаў. Разам з сотнямі прысутных беларусае духавенства малітвай сплачвала доўг удзячнасьці свайму дабрадзею. Вечная памяць ! . .

*

Дня 5 верасьня 1974 г. у беларускай капліцы ў Марыян Гаўз была адслужаная сьв. Літургія за супакой душы Обэрона Гэрбэрта біскупам Ч. Сіповічам у саслужэньні айцоў А. Надсона і Т. Падзявы. Былі прысутныя на ёй сястра памёршага, далейшыя сваякі і сябры. Ад беларусаў была ўся Галоўная Управа ЗБВБ, а. Янка Пекарскі са спа-

дарыняй, Управа і сябры лёнданскага аддзелу ЗБВБ, спадары Глінскі, В. Астроўскі, сп-ва Дзейкі. Былі таксама сябры Ангельска-Беларускага Таварыства: Джоліфф, лёрд Эгрымот, Пікарда, Дынглі; Моррыс і яго спадарыня МакМілляны, матка і дачка Рыч; беларускія сьвятары а. Я. Гэрмановіч, а. Р. Тамушанскі.

Пасьля Літургіі ў беларускай залі школы сьв. Кірылы Тураўскага было прыняцьце. Тут усе з увагай праслухалі прамову Обэрона Гэрбэрта, якую ён сказаў у дзень адчыненьня Беларускай Бібліятэкі і Музэю 15 траўня 1971 г., а якую запісаў на магнітафоннай стужцы а. Р. Тамушанскі.

Обэрон Гэрбэрт дапамог беларусам увайсьці ў брытанскае асяродзьдзе, навязаць лучнасьць з асобамі культурнага і палітычнага кругу. Ён таксама паказаў брытанцам шлях, як можна зыйсьці да беларусаў, каб пазнаць іхні край і культуру, як супрацоўнічаць зь імі.

## СЬМЕРЦЬ І ПАХОВІНЫ А. ПРОТОЕРЭЯ УЛАДЗІМІРА САЛАЎЯ

Дня 17 жніўня 1974 г. у выпадку самахадовым быў моцна паранены, пасьля перавезены ў шпіталь у Бляўбойрэн (недалёка ад гораду Ульм у Зах. Нямеччыне), і там пасьля трох гадзін ад выпадку памёр а. пратаерэй Уладзімір Салавей. Перад сьмерцю праз нейкі час быў сьведамы, папрасіў разграшэньне ад біскупа Плятона Карныляка, які разам са сваім гэнэральным вікарым знайходзіўся ў тым самым самаходзе. Аб трагічным здарэньні біскуп Плятон, экзарх украінцаў у Нямеччыне, паведаміў тэлефанічна біскупа Сіповіча, які хутка выехаў на паховіны ў Мюнхэн.

Хто такі быў а. У. Салавей?

Вось перад намі адзін з дакумантаў напісаны ў лацінскай мове самым айцом Салаўём з 1954 г.: «Curriculum vitae», бачна прыгатаваны для царкоўных уладаў. У ім знаходзім наступнае:

«Я Ўладыслаў Салавей, беларус, радзіўся 15 верасьня 1913 г. ў Расеі ў Пецярбурзе. Мае бацькі Юліян і Зося з дому Аўдзевіч былі каталікамі і вянчаліся ў касьцеле. Яны былі беларусамі і я заўсёды ўважаў сябе і ўважаю за беларуса.

«Пачаткавыя навукі здабываў я ў Польшчы і Румыніі ў гадох 1921—29. У гімназію гуманістычнага тыпу я хадзіў перш у Лодзі, а пасьля ў Варшаве (1929—1936). У гадох 1936—37 студыяваў філязофію і ўсходнія навукі ў варшаўскім унівэрсытэце. Наступна ў Лодзі прадоўжваў студыі старaславянскай мовы (1937—39). Поў году (1939) быў у Папскай Усходняй Сэмінарыі ў Дубно, дзе рэктарам тады быў а. Мурыльлё. У гадох 1939—41 прадаўжаў студыі філязофіі ў віленскай сэмінарыі, якой рэтарам быў пралат Ушылла. Першыя два гады багаслоўскіх студыяў прайшлі ў



Вільні ў літоўска-беларускай сэмінарыі. Рэктарам у той час быў а. Тулаба. У далейшым студыяваў у нямецкай сэмінарыі ў Айхштэд. Віцэрэктарам яе перш быў а. Тулаба, па ім а. Манеліс, а рэктарам а. Ян Штыглер.

У сьвятары быў я рукапаложаны 21 ліпня 1946 г. Я. Д. Біскупам Міхалам Ракль».

Пасьля гэтак цяжкога і складанага шляху да сьвятарства нялёгка было і ў далейшым маладому сьвятару без свайго Біскупа знайсьці працу сярод сваіх суродзічаў. Таму быў змушаны працаваць праз нейкі час сярод немцаў, літоўцаў, украінцаў і іншых нацыяў, хаця быў таксама ў кантакце са сваімі суродзічамі і з Біскупам Слоскансам, калі гэты быў назначаны Апостальскім Візытатарам для беларусаў. Першага верасьня 1955 г. а. Салавей назначаецца афіцыяльна кіраўніком душпастырства сярод беларусаў у Нямеччыне: Oberseelsorger für Weissruthener in Deutschland. Пазыцыя гэтага замацоўваецца асабліва, калі беларусы атрымалі свайго Біскупа (1960). Айцец Салавей быў вельмі дзейным у прыгатаваньні ўдзелу беларусаў у міжнародным эўхарыстычным кангрэсе і хіратоніі Біскупа Ч. Сіповіча. Хутка ад свайго Біскупа атрымаў годнасьць мітрафорнага протоерэя.

Айцец протоерэй Салавей любіў урачыстыя Божыя Службы розных абрадаў. Ён меў цікавую

каллекцыю Літургіяў запісаную на магнітафонную стужку з сабораў Мінска, Львова, Кіева, Масквы. Быў музыкальным: граў на арганах, прыгожа сьпяваў. У час аўдыенцыі усіх беларускіх сьвятароў на чужыне у Папы Яна XXIII, калі Папа вітаўся з кожным і кожнаму сказаў добрае слова, глянуўшы на айца Салаўя усклікнуў: «Che imposante figura!» Што за-імпазантнаяastава! Гэта спадабалася айцу Салаўю і ён паўтараў з усьмешкай: «Толькі Папа мяне належна ацаніў . . . а вы сьмяіцёся, што я за-грубы».

Сьвятой памяці айцец протоерей быў вельмі пільным удзельнікам кангрэсаў «Kirche in Not», які штогод адбываліся ў Кэнігштайн, дзе адпраўляліся саабліўыя набажэнствы за прасьледаваныя народы і таксама за Беларусь.

Паховіны а. протоерэя адбыліся дня 22 жніўня 1974 г. Перш была адслужаная сь. Літургія ў украінскай царкве Я. Д. Біскупам Ч. Сіповічам у саслужэньні Я. Д. Біскупа П. Корныльяка і шматлікага духавенства. Прысутнічаў ў аўтары таксама Я. Д. Біскуп УАПЦ Арэст. Казань у нямецкай і беларускай мовах сказаў Ўладыка Чеслаў. У царкве было шмат вернікаў беларусаў, украінцаў і немцаў.

Пасьля абеду на могілках Вальдфрыдгоф была адслужаная вельмі ўрачыстая паніхіда. Прынялі ў ёй удзел успомненыя ўжо Біскупы, а. Архімандрыт Міттнахт, украінскае каталіцкае і праваслаўнае духавенства. Над магілай прамаўлялі Я. Д. Біскуп Арэст, Генэральны Вікары Украінскага Эгзархату, пробашч з Шонгаў а. Кайс, сп. Бортнік ад імя беларусаў, прадстаўнік украінскага Камітэту, ад скаўтаў і ўканцы Біскуп Сіповіч. Труна была ўбраная прыгожымі вянкамі і пакрыта бел-чырвона-белым сьцягам.

Ля сьвежай магілы нашага дарагога айца Ўладзіміра сабралася шмат вернікаў розных нацыяў і рэлігіяў. Усе яны адзінакава шчыра маліліся за душу памёршага і ўсе былі згодныя ў тым, што а. протоерэй Уладзімір Салавей як добры сьвятар служыў для Бога, для сваей бацькаў-



*Учасьнікі Ватыканскага II Сабору: Сп. Чэслаў Кукель, Пралат П. Татарыновіч, Біскуп Ч. Сіповіч, Протоерэй Сьвятой Памяці Ўладзімір Салавей.*

шчыны і для ўсіх людзей, як толькі мог і ўмеў, а навокал яго магілы — быццам над берагам вечнасьці — зацёрліся і зніклі розьніцы, якія паўсталі між людзьмі на працягу стагодзьдзяў.

Адзін з беларускіх паэтаў, прысутны на пахавінах, даслаў у рэдакцыю «Б. Шл.» верш, прысьвячаны памяці а. У. Салаўя. З прыемнасьцю тут яго зьмяшчаем.

**Рыгор Крушына**

## ВЕЧНЫ СПАКОЙ

**сьв. памяці а. Салаўя**

Дзе ёсьць вера і добрая справа,
Там любоў у вянку характва.
А жыцьцё так прыгожа, яскрава
Сьветлым позіркам б'е з-пад брыва.

Сьвет вялікі, сьвет братніх сустрэчаў,
Сьвет пачуцьцяў, багацьця і страт.
Ён нікому ні ў чым не пярэчыў,
Той, хто з Богам, дык значыцца — брат.

Ён маліўся за беднага брата,
За пакутны пакінуты Край,
Дзе няма ні свабоды, ні сьвята
І журбою аплаканы гай.

Ён знаходзіў суцешныя словы
І цяплілася сьвечка ў душы,
Аптымізм палымяны, здаровы,
Варушыўся і ўсіх варушыў.

А ў нядзелю нядоля людзкая
Падступіла хвілінай цяжкой.
Бог яго да Сябе заклікае,
Добрым — вечны нябесны спакой.

Над душою Сьвятая апека,
І няма ўжо дарогі зямной . . .
А жывая любоў чалавека
Чарадою ідзе за труной.

Людзі, кветкі і горкі смутак,
Сьледам сотні паніклых галоў.
Я трымаю паперы скрутак,
Чую боль нявымоўных слоў.

Я хачу, заміж кветак, каб словы
Завіліся ў жалобны настрой,
Словы чулыя з роднае мовы:
— Памяць вечная.
— Вечны спакой.

---

## НЭКРАЛЁГ

У апошняй хвіліне, калі замыкаўся № 3 (141) «БОЖЫМ ШЛЯХАМ», прышла сумная вестка пра сьмерць

Сьв. Пам. Уладыкі ІВАНА БУЧКО

Украінскага Ерарха,

радз. ў 1. X. 1891 г. Памёр дня 19. IX. г.г. у Рыме.

Заўсёды быў прыхільны нашаму Беларускаму Народу. Асаблівa дзейна ўвайшоў у Беларускае жыцьцё тым, што быў кансэкратарам нашага Уладыкі Чэслава Сіповіча ў г. Мюнхэне 4. VIII. 1960 г. падчас Эўхарыстычнага Кангрэсу. А пасьля прысутнічаў на урачыстым прыняцьці дый выказаў нямала гарачага пажаданьня ў адрас Беларускага грамадзтва і нова-пасьвячанага Уладыкі Чэслава. З намі зьвязаны й тым, што быў сталым Чытачом і добрым Падпісчыкам «Божым Шляхам».

Вечная Яму Памяць!

Рэдакцыя «Божым Шляхам»

---

## *Пішуць да нас*

Парыж. — Вы мне зрабілі вялікую прыемнасьць, перасылаючы «Байкі і іншыя Вершы». Я маніўся іх у Вас прасіць, але наколькі маю вельмі мала даверу да цяперашняй пошты, дык чакаў нагоды, каб пераслаць грошы. Хоць «Байкі» Вы мне пераслалі для рэцэнзіі, але я ўсёж тыкі Вам перашлю 23 купоны . . .

«Байкі» я прачытаў ад дошкі да дошкі. Ёсьць іх 240. Калі ўзяць пад увагу, што «Задыяк» мае 12 канстэляцыяў, дык Вы нам далі па 20 баяксатыр на кожную канстэляцію.

На Бацькаўшчыне слушна маюць права ад нас дамагацца, каб мы пакінулі па сабе сьлед ідэі змаганьня, каб падтрымаць гэтую ідэю і перадаць яе наступным пакаленьням. Хто ж гэта можа лепей зрабіць як эміграцыя, якая мае доступ да бібліятэк, архіваў, музэяў у такой меры, якой ня мела ніводнае пакаленьне, пачынаючы ад Рэнэсансу да Рэфармацыі . . . Баюся, што яны нам зробяць закіды і то, на жаль, слушныя.

Усё гэта, а мо' амаль усе гэтыя праблемы знайшлі адбіцьцё ў вашых казках і таму яны мне па душы: блізкія, якбы былі маімі. Я гэта гавару аб першай частцы, казках арыгінальных. Менш мне да спадобы гэтыя із Ляфонтэна ці Крылова, бо яны і без нашай, беларускай інтэрвэнцыі, добра знаныя. Затое думаю, што ў Вас замала выкарыстаныя прыказкі ды беларуская народная творчасьць. Ня думаю, каб Вы яе не зналі. Вось жа я і рады бы напаткаць больш народнай мудрасьці ды праблемаў змаганьня за існаваньне нашае нацыі.

Наагул я прачытаў «Байкі» з прыемнасьцяй: верш лёгкі да чытаньня, арыгінальны дык і ня клоніць да сну, як гэта здараецца некаторым аўтарам. Дык — за працу, дарагі Аўтар! час бяжыць, дык чакаць няма чаго . . . Што да тэмаў, дык бязумоўна шмат каму яны, вашыя казкі будуць не да спадобы, але нічога не парадзіш. Хрыстос таксама быў схапіўшы вяроўку, каб разагнаць ужо занадта разбэшчаных камэрсантаў. Памажы Вам, Божа!

Пытаеце, ці маю намер наведаць Ангельшчыну? Тымчасам не. Сьвет вялікі, што і па адным разе ня хопіць часу яго агледзіць . . . **Ул. Ш.**

28 тр. 1974.

**Дарагі Рэдактар «Божым Шляхам»!**

Ужо даўнавата як выслаў Вам 10 даляраў, спадзяюся, што Вы ўжо атрымалі? Хіба Вам ведама, што ў нас здаўна бунтаваліся паштары і на галоўнай перасылцы ў Сыднэй сабралася больш як 4-ы мільёны ўсялякіх пераказаў, як падавала радыё. Дык пройдзе нямала часу, пакуль усё ўпарадкуюць. Ну, нейкім «цудам» трапіла ім пад руку мая ад Вас кніжка «Байкі і інш. вершы» . . . Ужо жонка яе адчыніла, а й я вельмі ўцешыўся і зара-жа пачаў чытаць.

Як на тую бяду, трапілася ў нас пільная работа — зрабіць неадкладна. Аднак-жа я ня мог ад кніжкі адарвацца — аж тая «пільная» ў нас работа так і асталася на «пачакай!». Ведама, жонка сварыцца: «Што ты так прыналёг? як перад канцом сьвету . . . » Але нічога не памагло: клікала спаць — нічога! праседзіў так і да самае раніцы, хоць напамінала: «Заўтра раніцай трэба йсьці на работу! . . . »

Кажу ёй: «Панараві крыху, як пачнеш ты сама чытаць, тады ня ведама, хто на каго будзе крычаць».

Назаўтра вярнуўся я з працы, а вячэра й не гатова! Дый шчыра яна сама прызналася: «Дарэмна ўчора на цябе сварылася: цэлы дзень Вінцуковыя «Байкі» чытала. Проста нейкія чары: Дасюль нямала кніжак чытала, дык магчыма было затрымацца. А гэтую аніяк нельга адкладываць: адну канчаеш, зараз дальшая й няма сілы адарвацца! —

Так сапраўды, пачаўшы чытаць Байкі Вінцука Адважнага, нельга іх перарваць, бо адна лепшая за другую. Гэта твор, якога так неставала ў беларускай пасьля-ваеннай літаратуры! Шмат часу пройдзе, пакуль Беларусы здабудуць новага такога байкапісца . . .

Байкі чытаюцца лёгка й зразумела. Кожную можна прымяркаваць да сябе і да нашых абставінаў. Раз-два прачытаўшы, можна ўжо іх дэклямаваць. Я шмат чытаў вершаў, але неяк ніводнага ня мог запамятаць — неяк не даюцца. Ёсьць такія-сякія пытаньні, алі гэта неважна: важна тое, што гэтакая кніжка пайшла па сьвеце, а я вельмі дзякую за аўтаграф.

Вось і ўся мая крытыка, якой Вы прасілі ад мяне: што на розум прышло, тое й напісаў. Як я сказаў вышэй: вышаў твор «БАЙКІ» сусьветнай славы! Можна было-б паўтарыць, што сказаў Пушкін: «Я памятнік сабе нярукатворны збудаваў».

На вялікі жаль, не магу кніжкі разаслаць па людзях, бо толькі таму, што беларусаў тут, у Альбаны, няма. Іншая справа ў Пэрт: там іх нямала, але я там не маю ніякага ўплыву.

Не магу паўстрымацца, каб не сказаць, як мы Вас любім, як-бы роднага бацьку!

Хочацца падзяліцца з Вамі сваей сямейнай радасьцяй, — можа і з сумам? 21-га кастрычніка будзем жаніць свайго сынка. А паводле тутэйшага абычаю ён ужо ня будзе з намі жыць, як бывала на Бацькаўшчыне. І астанёмся мы ў дваіх з сваей старушкай. Пэўна-ж разам было весялей, — аж астаецца сум в хаце . . .

Дык аставайцеся здаровенькі! Жадаем Вам шмат здароўя. Калі надарыцца нагода, то напішыце аб сваім ўражаньні з падарожжа.

Хіба недзе заваляўся «Божым Шляхам», бо мы яшчэ на атрымалі? **Ваш Кастусь Чабатар**

Альбаны, 27. VII. 1974.

# Байкі

## ЛАНЬ І ЛЯСЬНІК

*Лань маладая, згубіўшы міленькіх дзяцей,*
*Ад рук нягоднікаў-людзей,*
*Як сірата — сама, знайшла сірот — ня шмат,*
*А двое ваўчанят:*
*Ім стала памагаці —*
*Карміла малаком, як маці. —*

*Лясьнік убачыў раз*
*Такі дзіўны абраз, —*
*Аж крыкнуў: «Што робіш, звар'яцеўшы?*
*Бо ты, каб розум меўшы,*
*Магла бы, зьмеркаваці, —*
*Якая ж ты ім маці?! —*
*Як вырастуць, тваіх дзяцей пажруць,*
*Цябе й самую разарвуць . . .»*

*А лань казала: «Вы, мужчыны,*
*Не разумесце жанчыны.*
*Ваўкі нам ворагі — так, згода;*
*Аднак сіротак шкода:*
*Нельга галодных кінуць,*
*Бо ўраз змарнеюць — згінуць! . . .*

*А малака ў мяне да збытку*
*Дый бязь ніякага пажытку. —*
*Што скажа Бог, наш Гаспадар,*
*Калі змарнуеш Божы дар?»*
*Лясьнік махнуў рукой*
*І даў спакой.*

*

*Грэх-сорам чалавеку:*
*У нашым, у культурным веку,*
*Муж-жонка баяцца нарадзіць, —*
*«Давай дзіця (нявіннае) забіць! . . .»*

*Знайшлі ўжо шыта-крыта*
*І доктара-бандыта,*
*Што танна дый ільготна*
*З нажом правёў ахвотна*
*Ўсю апэрацыю тэхнічна,*
*Хоць бязсумленна,*
*А практычна.*

*

*Ці ж можа родна маці*
*Стаць ворагам дзіцяці?*
*Браты, пазнайце праўду гэту:*
*Дзіця — то радасьць сьвету —*
*Надзея для народу. —*
*Вы творыце і грэх і шкоду . . .*
*Бацькі такія, (чорт бяры!) —*
*Вы горш, чым лютыя зьвяры!!!*

Лёндан, 4. VI. 1974.

## ДУБ І ТРАСЬЦІНКА

*Дуб-Вялікан на берагу ракі*
*Жыў-быў вякі,*
*Штогодна мацаваўся, рос —*
*Аж да нябёс!*
*Наўкол яго сукі усё жывое замарылі,*
*А зьверху там карону грозную тварылі.*

*Дуб кідаў грозны цень*
*У ясны дзень. —*
*Аж думаў сам: «Я — Валадар,*
*Дыктатар, цар!*
*Баяцца мяне ўсё, а я — нікога —*
*Ні чорта лысага, ні . . . Бога!»*

*Расла трасьцінка ў вадзе:*
*Заўсёды ў горы і ў бядзе*
*Яна хісталася, дрыжэла, —*
*З пашанаю на дуб гладзела.*

*Убачыў дуб трасьцінку у вадзе*
*І гэтак рэч вядзе:*
*«О, бачу я твой лёс няшчасны, —*
*Ты ж глянь на мой уласны:*
*Расту я, грозны Вялікан,*
*Як цар, як пан:*
*Змагаюся з усей натурай*
*І з страшнай бурай.»*
*Я ж не баюся, ні дрыгну*
*І свайго стану ня прыгну —*
*Ні перад кім!*

*Трысьцінка, ты пры ветрыку ціхім*
*Ужо хістешся пасьпешна —*
*Аж глянуць сьмешна!*
*Твая душа, здаецца, просіць:*
*„Ах, досыць, досыць!" —*
*Дык як ты будзеш жыць,*
*Як бура наляціць?*
*Загінеш! Я — то знаю. —*
*Дык шчыра табе раю:*
*Ад рэчкі марнай адступіся —*
*Ка мне, на берег прытуліся.*
*Я дам табе апеку,*
*Як дрэву, птушкам, чалавеку.»*

*

*Трасьцінка кажа: «Не!*
*Апека не патрэбна мне.*
*А бура ў ліхалецьці*
*Страшнейша будзе для Вашэці!»*

*Cъмяяўся дуб — аж рагатаў, —*
*Дый раптам застагнаў,*
*Бо з мора бураналяцела —*
*Ажно зямля дрыжэла!*

*Трысьцінка гнулася — аж прылягла,*
*А буру ўсё ж перамагла.*
*А дуб стаяў — ня уступаў, —*
*Аж ураган яго зламаў, —*
*Скруціў і зь берагу у рэчку скінуў —*
*Так горды цар загінуў!...*

*

*Пачэзьлі пышныя цары.*
*А два дыктатары-Валадары*
*Перш падружыліся з сабой, —*
*Пасьля пайшлі ў крывавы бой...*
*Хацеўшы Беларусь здабыць,*
*Не зналі, як яе дзяліць?*
*Як перш цары прайшлі,*
*Дыктатары вось так згнілі. —*

*А Беларусь трымаецца, сьпявае:*
*Бог ёй у горы спачувае.*

Вінцук Адважны

Лёндан, 7. VI. 1974.

---

# Думкі выдатных людзей

**Ул. Соловьёв гаворыць пра малітву: «МАЛІТВА** — певшае дзела і пачатак усялякага першага дзела».

Салаўёў у корэні усялякае грахоўнасьці бачыць самалюбства.

Ён гаворыць: «Давай бліжняму больш, чым ён заслужвае: абыходзься з бліжнім лепш, чым ён варты».

«Зло ёсьць у тым, што душа супраціўляецца Богу, а цела супраціўляецца душы».

«Маліся зь верай, рабі людзям дабро з любоўю і перамагай сваю прыроду ў надзеі будучага ускрашэньня».

«Абраз Хрыста ёсьць адзінай праверкай сумленьня ... спытацца сябе: ці мог бы Ён (Хрыстос) выканаць гэты учынак, або — другім словам — ці Ён пахваліць гэтае дзела, — ці благаславіць мяне, каб я гэтае выканаў?»

«Я прапаную такую праверку ўсім — яна не ашукае цябе. У кожным выпадку, калі толькі астаецца магчымасьць апамятацца і падумаць, успомні аб Хрысьце, уяві сабе Яго жывым, якім ён і ёсьць, і узлажы на Яго цяжар сваіх сумніваньняў ... »

«Калі б усе людзі з добрай воляй ... прыбегалі да такога пэўнага способу ў ва ўсіх выпадках сумневаньня, дык гэта быў бы пачатак — прыгатаваньня **на страшны Хрыстовы СУД**».

### САМОТА

У цэлым жыцьці меў я густ да самоты, хоць і ня быў нелюдзень. Проста я пачуваўся добра сам з сабою. Але тое было, калі я сам выбіраў сабе самоту. Так, самота ў ціхой хаце, у зацішным пакойчыку; самота сярод сонечных палёў, у глыбокім бары, у гурце прыгожых, а для мяне заўсёды жывых — дрэваў ... Мой Божа, колькі гэта давала мне аказіі да снаваньня думак і для настрою! А самота ў марозныя, зімовыя, месячныя ночы, — фантастычная, а такія рэальныя, што злучаюць зь вечнасьцяй!... Я улюбляўся ў самоту, бо толькі ў самоце душа на зямлі пазнае свае прасторы і сваю незалежнасьць, якая ў варунках гоману жыцьця становіцца толькі ласкутком у таўкатні супольнай цясьнаты.

Аднак тут, у гэтым моры, дзе няма ніякіх іншых колераў, ані ляснога прасьвету і дзе камары пагрызьлі ўсяго мяне ад галавы да пятак, а я ўсё ж змушаны шукаць ратунку ад напасьнікаў мае свабоды і жыцьця і змушаны гнязьдзіцца ў паганай пустыньцы ... Дык тут нічога не пацягвае мяне да самоты. Думаю, што каб шымпанз уцёк з праезднага цырку, і схаваўся на маё месца, дык і ён пасьля малога часу ў такой «вольнасьці», у гэтых безнадзейных кустох і ў беднай каморцы, зажурыўся б па сваей клетцы і па добрым харчаваньні. Няма тут нічога з чароўнасьці самоты. Аргумант, што я тут моцна схаваны перад паліцыяй хутка мінуўся і не даваў ніякае пацехі. А страх перад людзкімі ворагамі блякаваў у меру, як чуўся шэлест у лозах і шум вады ў Дняпры што мяне вельмі непакоіла. Толькі роіліся ў душы духі пабітых людзей і пасьля патопленых у адвечным змаганьні за гэтую ўраджайную зямлю: так пралятаў рой гэтых духаў, а я быў самотны-адзінокі!...

К. В-скі, Памятнікі, 1972

# З прачытаных кніжак

ВЕРА — гэта нейкае новае паветра, праз каторае відзяцца па новаму прадметы на сьвеце. Вера — дакладная пэўнасьць ува ўсім рэальным на гэтым сьвеце. Вера ёсьць добрая пэўнасьць, а нявера — атэізм — гэта дурны сон. І таму недаверства сапраўды няма, а ёсьць толькі ілжывасьць веры — самападман. Цяперашнія атэісты знаходзяць заступніцтва для веры ў Бога, як вера у партыю, дый у лідэраў камуны — у Маркса, Леніна, а ў Кітаі ў Мао.

Дзіўная пакора чалавека, нават няверучага у праявах фізычнага жыцьця, як дыханьне, біцьцё сэрца, работа ўсіх органаў цела. Чалавек гэтага ня творыць, яно робіцца само...

Кажная хвілінка часу набірае асаблівага значэньня — ў меру, як падыходзіць канец жыцьця. Вялізарная ёсьць вартасьць часу ў параўнаньні да вечнасьці. А час — вельмі кароткі: гэта бачым, як ён зьмяняецца, — расшыраецца ці звужываецца. Час часамі «ляціць», як анёл па небе; але часам праваліцца, як дэман, які зьляцеў у бэздань. Дый часамі паўзе час, як стары інвалід на двух кастылёх.

*

Многія цяпер моляцца... Божа, дай ім дасканалую малітву! Многія цяпер просяць — выканай, Божа, іхняе прашэньне!... Іншыя цяпер насычаюцца тваей стравай, багаславі яе!.. Яшчэ іншыя паміраюць, — няхай будуць апошнія хвіліны ў тваей ласцы!... Многія. Цябе шукаюць — акажыцся ім! А многія грашаць, — даруй ім, навярні іх да Сьвятла. Многія стаяць на парозе грахоў, — не дапусьці іх да ўпадку! Умацуй тых, якія шукаюць тваей праўды! Прымі пакуту тых, што каюцца! Слава Табе, Божа, й дзякуем Табе! Аман!...

*

Нашая бяда ня ў тым, што ўсё крытыкуем, але ў тым, што мы крытыкуем дробязі. Нас нэрвуюць нязначныя адросткі зла, але кораня зла мы не бачым. Гэта незначнае нездаваленьне з жыцьця выклікае ў нас вялікія пратэсты і вялізныя крыўды — аж да нараканьня на людзей, да спрэчак, крытык і да злосьці. Так зь нічога ўзьнікаюць ненавісьць і грэх!

Людзі наўзаем сабе патрэбныя, але хутка надаедаюць адны другім: тут неабходная ахвярнасьць, цярплівасьць і любоў. Каб усе былі пад адну мерку, жыцьцё сталабы катаргай, а так яно бывае нявыгоднае, але магчымае і людзкае. Памні, што і ты — чалавек дый іншыя таксама — людзі!

Калі любіш праўду, дык барані яе — не як сваю, ані як чужую, але як Божую — у адносінах зь людзьмі і ў крытыцы.

Ува сьне чалавек можа праканацца, якая пустата і нікчэмнасьць жыве ў ягоным жыцьці. Такой самай марнасьцяй запаўняецца і ўсё нашае жыцьцё: мы ня ўмеем падлавіць сваіх жаданьняў, свайго гумару, праектаў і камбінацыяў...

«(Юда Іскарыёт) шукаў дагоднага часу, каб здрадзіць Хрыста, але ня пры народзе» (Лука XX, 22, 6). — І чалавек у таёмным граху здраджывае Хрыста, але «ня пры народзе».

Божае Валадарства «здабываецца намаганьнем». Трэба «зарабляць» сабе неба, або «жабраваць» — працягіваць рукі ў неба і выклікаць Божае зьлітаваньне.

Мы толькі падбегаем да Бога. Трэба хадзіць за Ім. Розьніца паміж целам, душой і духам — такая: У старасьці добрых людзей псыхічныя сілы чалавека тупеюць, цела адмірае, але дух — жывушчы. Душа зьвязываецца, цела рассыпаецца, а дух узвысшаецца, сьвятлее і расьцьвітае ў шчасьці!

Гэта ёсьць доказ нашае несьмяротнасьці ў Богу.

У гандлі ёсьць свая мэтафізыка. Здаецца, што няма чалавеку большага шчасьця, як прадаваць і купляць... Яму здаецца, што ён узрастае ў куплі і ў прадажы, быццам здабывае новую частку сьвету. Такая мэтафізыка гандлю. А ў прадажы выдаецца, што мяняе менш вартаснае на важнейшае, нават і ў духоўнай вартасьці! Аднак усе вартасьці сьвету мінаюць і патрэбны толькі да таго, каб «купіль сабе» вечнае жыцьцё... «Шукайце найперш Нябеснага Валадарства, сказаў Гасподзь, а ўсё іншае будзе вам прыдадзена».

Падчас усялякай пагоды людзі вядуць свае справы... Папраўдзе людзі «вераць» у добрую пагоду: жывуць сьвятлом і цяплом, калі лье дождж або бушуе вецер. Усе жывуць сонцам, хоць яго не бачуць.

Але благая пагода бывае і ў парадку духовым: усёж тыкі, калі ў душах узьнікаюць неспакой, бура, ці туманы, то гэта не на заўсёды. Хрыстос — сонца праўды — пакажа сваё аблічча і наступіць яснасьць у душы, радасьць Божая, як і ў дачасным жыцьці; а што-ж казаць аб жыцьці вечным? Там Сьветласьць вечная і там ня будзе ані плачу, ані смутку, бо ўсё дачаснае праміне цца!

Няверучыя ня могуць зьняпраўдзіць веры і адвергнуць яе, як і самога Хрыста нягодныя людзі адкінулі, адракліся і зганьбілі. Так як сонца можа быць праклята ў вялікую сьпеку; але ніхто ня можа адрачыся ад яго, бо ім жыве нашая планэта і ўсё жывое на ёй.

Тымбольш Хрыстос, сонца праўды, Сын Божы, праз людзей, нават праз самых веручых, калі нават (на вялікі стыд і жаль!) бывае зьняважаны, калі ня жывуць паводле сваей веры; аднак ніхто і нішто ня можа Яму зашкодзіць ці Яго зьняпраўдзіць!.. Сонца-Хрыстос ніколі не заходзіць і ня церпіць зацьменьня. Аман!

Рушацца на нашых вачах дыктатуры, царствы і валадарствы, хоць іх закладалі магутныя людзі на «тысячы гадоў», а толькі Валадарства Божае трываць будзе вечна, а ягонаму Валадарству ня будзе канца»! (Лука 1, 33).

*Біск. Іоан Сан-Францыскі, Час Веры*

# Прыслоўі і прымаўкі

(Са зборніка Л. Г.)

Белена, але есьці ня велена.

Белыя рукі любяць чужы мукі.

Беражы адзеньне знову, а чэсьць з моладу.

Беражы сена ад Міколы да Міколы і ня бойся зімы ніколі.

Беражыся, баба, тут будзе ухаба.

Бес бы дзядта ў рукі ўнёс, каб не яго доўгі нос.

Б'еццa, як галубка падстрэленая.

Бессаромнага госьця скваркамі з хаты ня выганіш.

Бізун ды падаткі — панскія парадкі.

Білі пана ў Смаргонях, а з Варшавы паны ўцякалі на конях.

Біліся, а яму як надаваў, дык ён чуць пабег, а я чуць пайшоў.

Бітаму сабаку кія не паказывай.

Бі сароку, бі варону: даб'ешся да белага лебедзя.

Благая снасьць адпачыць не дасьць.

Благая тая дамова, дзе вала бадзе карова.

Благая чэсьць, калі няма чаго есьць.

Благі зь ліхім знаюцца, адзін на другога ссылаюцца.

Благому жывату і пірог шкодзіць.

Блізка бяды ходзіш — на ліха натрапіш.

Бог бачыць зь неба, што каму трэба.

Бог за аднаго, а я задругога! (Гаварыла ўдава).

Бог захоча і сьляпы ўбача.

Бог зь людзьмі робіць ігрыска: аднаго ў гару, а другога нізка.

Бог ласкавей судзіць за людзей.

Бог лесу не раўнаваў, дык і людзей не раўнуе.

Бог праўду бачыць, але ня скора скажа.

# Цікавыя жарты

Славуты адвакат выступаў у судзе ў абароне ведамага злодзея, якога суд апраўдаў. Пасьля справы адвакат пытаецца: «А цяпер скажыце мне прыватна праўду: укралі вы ці не?

«Зразумела, што ўкраў. Бо адкуль бы я меў грошы заплаціць вам за абарону?» (Дігест з 1953).

*

Наступная вестка была надрукаваная у канадыйскай газэце:

«Мільянэр, малады, прыгожы, хацеў бы пазнаёміцца з маладой жанчынай, каб ажаніцца. Яна павінна быць падобнай да гераіні ў X рамане».

У працягу 24 гадзін увесь тыраж успомненага раману быў выкуплены. (Манчэстэр Гвардіян)

*

«Вы вельмі адважны, сказаў гаспадар маладому чалавеку. Вы хіба ня ведалі, якая небасьпека вас чакала, калі вы кінуліся ў мора, каб ратаваць маю дачку?»

—Гэта я ведаю, адказаў герой. «Але па першае, што я — плывальны чэмпіён, а падругое, што ўжо жанаты». (Канстэлльлятіён Р.)

«Твой аўтамабіль мае ўжо тры гады, а не мае ані аднэй драпіны. Якім цудам ты патрапіш утрымаць яго ў такім добрым стане?» пытаецца Андрэй свайго прыяцеля.

«Як правіла, я паркую яго паміж двума новымі аўтамабілямі». (Ад. Стокгольм)

Праваднік карціннае галерэі у Празе тлумачыць прысутным:

«Тут мы маем партрэт вялікага расейскага вынаходніка, Іванова. Ён першы ў сьвеце вынайшоў паравоз, тэлеграф, радыё і тэлевізію».

«А хто гэта», запытаўся наведальнік, паказваючы на іншы вялікі партрэт.

«Гэта іншы вялікі вынаходнік, адказаў праваднік. «Ён адкрыў гэтага Іванова».

(Нью Ёрк. Тімэс. Магазін)

*

Удава вышла за ўдаўца. Прыяцелька яе пытаецца: «Ці твой муж часта гаворыць табе пра сваю памёршую жонку?»

«Не, ужо перастаў гаварыць».

«Як жа гэта магло стацца?»

«Вельмі проста, бо я стала гаварыць аб сваім наступным мужу». (Роберт Вальдэн)

ЗЬМЕСТ:



Druck: „Logos“ GmbH, Buchdruckerei u. Verlag, 8 München 19, Bothmerstr. 14